E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 5 (34) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА САКАВІК 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС* 63773 http://nchas.iatp.by

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

## Прамяністыя

*Айчыннай інтэлігенцыі*
*XXI стагоддзя*

Там, у Афрыцы, грыфы.
Там, у Грэцыі, амфары.
Тут – наркомаўкі рыфмы
да савецкай метафары.
Там – узмор'е Ла-Манша.
Там – гатэлікі ў Турцыі.
Тут і мова не наша
і радкі Канстытуцыі.
Там – жывучыя персы...
Там – віхлястая Індыя.
Тут – валютныя персі
і каханне па відэа.
Тут – надводныя рыфы.
Тут – Везувій без кратэра;
загнівае не ў рыбы
галава – ў правакатара.
Там, за Латвіяй, Балтыка.
У Італіі – ружы.
Тут – кульгае граматыка
праз дзвюхмоўныя лужы.
Скасабочаны дзверы –
і матляецца нацыя...
Тут – сядзяць аднаверцы.
Там – жыве інтэграцыя.
Нехта думае ў Скідзелі.
Нешта ведае Быхаў.
Тут – кланіруюць «інцеляў»,
там – самоцца Быкаў...
Ганарыцца пачвара:
у мяне індульгенцыя.
Дзе ж яна, з Божым дарам,
ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ, –
не праслоечка вузкая
на ганенні і кпіны,
а святло непатусклае
для счарнелай краіны?
Веснатою набухне
дзень разумны, дасведчаны, –
Беларусь не патухне
і з душой пакалечанай.
Тут – будзіцеляў поўня.
Тут – радовішчы жыляцца.
Тут – пры дотыку промня
і Свабода раскрыліцца!

# Соль зямлі

# Расія павінна пастаўляць газ Беларусі бясплатна

Спадзяюся, што ваша газета надрукуе мой ліст, бо хачу падзяліцца развагамі, якія маюць значасць для кожнага грамадзяніна нашай краіны.

Можна толькі дзівіцца, што наш урад вядзе бясконцыя перамовы і заключае нейкія ўрывачныя дамовы з расійскімі манаполіямі на пастаўку газу. На кожным тыдні новыя сустрэчы і новыя скаргі расіянаў, што Беларусь ім мала дае і хоча мець газ за «славянскія» пацалункі. Крыўдна гэта чуць. Кіраўнік нашай краіны заяўляў, што толькі на мэты ваеннага характару наша Беларусь аказала ласку Расіі на вялізную суму – болей за 20 мільярдаў даляраў. А расіяне ў галаву не бяруць нашу ахвярнасць.

Аднак гэта толькі частка сумы, якую павінна нам Расія. Чамусьці ніхто –ні наша ўлада і ўрадоўцы, ні расійскі бок – не ўзгадваюць пра тыя выдаткі, якіх патрабуе навучанне беларусаў на расійскай мове. Хіба працэс русіфікацыі, адмовы ад роднай мовы, навучанне дзяцей і студэнтаў на расійскай мове нічога не каштуе? У нас, здаецца, толькі адных настаўнікаў болей за 300.000. I амаль усе яны праводзяць навучанне па-расійску. А кожнаму трэба плаціць заробак, школы трэба ацяпляць. Мы губляем свае кадры навукоўцаў, якія маглі б працаваць на родную асвету. Мы рыхтуем для расіянаў рабочую кваліфікаваную сілу. У нас няма ніводнага прафесійна-тэхнічнага вучылішча, дзе вучылі б па-беларуску (апроч урокаў беларускай мовы). Няма ніводнага каледжа, інстытута ці універсітэта (апроч беларускага аддзялення на філфаках), якія рыхтавалі б беларускіх спецыялістаў для Беларусі. Мы цягам дзесяцігоддзяў рыхтуем кадры – раней для СССР, а цяпер, па сутнасці, для Расіі. Дык, выдаткоўваючы на гэта бюджэтныя грошы, хіба не павінна наша краіна нагадаць расіянам пра кошт асветы і паставіць умову: не хочаце плаціць газам за расійскую адукацыю беларускай моладзі - мы пераходзім на адукацыю па-беларуску. Як казаў прэзідэнт Пуцін, трэба аддзяляць катлеты ад мухаў. Чаму мы дарам робім тое, што каштуе сотні мільёнаў даляраў?

**Станіслаў ШАМЕТА,**
*г. Слонім*

# Рука шчодрасьці Садама Хусэйна

**Публікацыя пад такой назваю зьявілася днямі ў бюлетэні міжнароднай дасьледнай групы ў абарончых пытаньнях Jane's Defence. Яна прысьвечаная аналізу сьпісу дзяржаваў і бізнэсмэнаў, якія атрымлівалі хабар ад ірацкага дыктатара ў абмен на дыпляматычную падтрымку і палітычнае лябіяваньне ў сваіх краінах і за мяжой. Сьпіс атрымальнікаў таннай нафты ад Хусэйна ў сёлетнім студзені апублікавала ірацкая незалежная газэта «Аль-Мада». Паводле гэтых зьвестак, аб'ектамі шчодрасьці былога кіраўніка Іраку былі 270 кампаніяў, арганізацыяў і бізнэсмэнаў зь дзясяткаў краінаў сьвету. Фігуруюць у сьпісе і беларускія атрымальнікі – сярод іх і адміністрацыя прэзыдэнта, і лібэральна-дэмакратычная партыя, і прыватныя фірмы.**

Jane's Defence, аналізуючы сьпіс, адзначае, што, за выключэньнем Сырыі, большасьць атрымальнікаў нафтавага хабару ў мусульманскім сьвеце прыпадае не на антызаходнія краіны (такія, як скажым, Лібія), а як раз на празаходнія, такія як Егіпэт, Лібан, Турэччына. Заўважым, што гэта і натуральна - краіны, якія былі такімі ж ізгоямі, як сам Ірак, ня мелі рычагоў палітычнага ўплыву, якімі маглі б адплаціць за даброты, і маглі, бадай, толькі даць каналы кантрабанды нафты з Іраку, на які былі накладзеныя міжнародныя санкцыі.

Jane's Defence адзначае, што дакумэнты пра атрымальнікаў нафтавага хабару Садама на Блізкім Усходзе могуць стаць інструмэнтам амэрыканскага ціску на ўрады ў рэгіёне.

У Заходняй Эўропе сьпіс аб'ектаў шчодрасьці Хусэйна адкрываюць Францыя й Італія. На думку аўтараў публікацыі, гэтыя дадзеныя дазваляюць паставіць пад сумнеў бескарысьлівасьць пазыцыі Парыжу, які найбольш жорстка выступаў супраць ваеннай апэрацыі ў Іраку.

Немалая частка даброт Хусэйна прыпадала на тры краіны СНД: Беларусь, Расею і Украіну.



Паводле Jane's Defence гэтыя абвінавачваньні пацьвярджаюцца і іншымі фактамі: расейскімі пастаўкамі зброі ў Ірак, пра якія стала вядома падчас самай вайны, арыштам украінскага карабля, які займаўся кантрабандай нафты зь Іраку, зьвесткамі пра беларускія пашпарты, якія былі падрыхтаваныя для шэрагу высокіх чыноўнікаў былога рэжыму.

Аўтары публікацыі прыгадваюць, што амэрыкана-украінскія адносіны істотна пагоршыліся яшчэ ў 2000 годзе, падчас скандалу ў справе загібелі журналіста Георгія Гангадзэ. Найніжэйшага пункту стасункі паміж Кіевам і Вашынгтонам дасягнулі ў 2002 годзе, калі Злучаныя Штаты абвінавацілі ўкраінскія ўлады ў пастаўцы ў Ірак супрацьракетных комплексаў «Кальчуга».

Аналітыкі Jane's Defence мяркуюць, што зьвесткі пра хабары Хусэйна ўкраінскім урадоўцам і бізнэсмэнам толькі ўмацуюць намер Злучаных Штатаў адкласьці справу паляпшэньня адносінаў з Украінай да выхаду з пасады прэзыдэнта Кучмы.

Што да Беларусі, то экспэрты падкрэсьліваюць, што Аляксандар Лукашэнка і бяз гэтага дастаткова ізаляваны на Захадзе, каб выкрываньні ірацкай газэты неяк зьмянілі гэта стаўленьне Захаду да кіраўніка Беларусі.

**Юры ДРАКАХРУСТ,**
*Радыё Свабода*

# Карысць Літвы ад уступу ў НАТО

У сувязі з уступленнем Літвы ды іншых краінаў Балтыі ў НАТО шмат гавораць аб размяшчэнні ваенных базаў і вайсковых кантынгентаў на тэрыторыі новых чальцоў альянсу, аб хваравітай рэакцыі на гэта Расіі. Прайграе ці выйграе Літва ад сяброўства ў НАТО?

Літва выдаткоўвае на армію 2% свайго ВУП. На нядаўняй нарадзе прадстаўнікі ўсіх асноўных партый Літвы пацвердзілі, што і ў будучыні Літоўская дзяржава будзе аддаваць абароне не меней 2% ВУП. Пагадненне гэтае патрэбна не столькі самой Літве, колькі НАТО, бо яно гарантуе, што хто б ні прыйшоў да ўлады ў краіне ў бліжэйшы час, армія будзе атрымоўваць свае 2%.

Што азначаюць гэтыя 2% для кішэні простага літоўца? Бывцам бы – няшмат. У разліку на душу насельніцтва атрымоўваецца крыху меней за 300 літаў на год (меней за 100 даляраў). Калі трымацца дакладнасці, у 2002 годзе на армію кожны жыхар выдаткаваў: у Літве – 291 літ, у Эстоніі – 318 літаў, у Латвіі – 202 літы. Пры ўступленні ў НАТО Венгрыі і Чэхіі выдаткі гэтых краінаў на душу насельніцтва складалі: у венграў – 404 літы, у чэхаў – 490 літаў.

Для «нейтральных» краінаў абарона абыходзіцца нашмат даражэй: Ірландыя, якая не ўваходзіць у НАТО, выдаткоўвае на абарону 785 літаў на душу насельніцтва, Швецыя – 1.849 літаў.

З другога боку, ад сяброўства Літвы ў альянсе чакаецца і «матэрыяльная» карысць – рэзкі скачок даверу да краіны, якая знаходзіцца пад абаронай НАТО, з боку інвестараў і банкаў. На думку фінансавага аналітыка Маргарыты Старкявічутэ, пад'ём «рэйтынгаў пазычання» часткова адбываецца і з прычыны сяброўства Літвы ў НАТО і ЕС. «Пад'ём на адну ступеньку азначае на фінансавых рынках звычайна, што за крэдыт плаціць на паўпрацэнта меней. Здаецца, што тут асаблівага? Але, ведаючы, што штогод Літва пазычае каля 1,5 мільярды літаў, гэтыя паўпрацэнта з'яўляюцца вялізнымі грашыма».



Літва спадзяецца зарабіць і на ваенных заказах, якія павінны пасыпацца з боку альянсу, як толькі яна стане чальцом НАТО. На думку Старкявічутэ, «абаронная прамысловасць, якой патрэбны прадукты высокай кваліфікацыі, прапануе разам і кваліфікаваную працу, і вялікі заробак, і стабільныя заказы».

Падобна мяркуюць і самі прадпрымальнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў. Напрыклад, генеральны дырэктар прадпрыемства «Vilniaus vingis» Вацлавас Шлейнета лічыць, што літоўскія прадпрыемствы рознага ўзроўню здолеюць нядрэнна зарабіць на «абслугоўванні» НАТО: «Мы спадзяемся, што знойдзем сваю нішу, прымаючы ўдзел у канкрэтных праектах, якія абслугоўваюць НАТО як арганізацыю. Магчыма, тут можна казаць пра сотні мільёнаў даляраў ці еўра, столькі ад удзелу ў гэтых праектах могуць мець літоўскія прадпрыемствы».

Цяпер усе рыхтуюцца да афіцыйнага пачатку сяброўства краіны ў ЕС і НАТО. Логіка зразумелая: застаўшыся сам-насам з Расіяй, на абарону давялося б траціцца не меней, а болей. А з сяброўства можна атрымаць і дадатковую карысць, выконваючы натаўскія абаронныя заказы

*Росбалт.ru*

# Прэмія імя Францішка Багушэвіча




25 сакавіка Беларускі ПЭН-цэнтр уручыў традыцыйную прэмію імя Францішка Багушэвіча Захару Шыбеку за кнігу «Нарыс гісторыі Беларусі 1795-2002». Захар Шыбека - доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Аўтар папулярных кніг «Мінск: старонкі жыцця дарэвалюцыйнага гораду» (1994), «Гарады Беларусі: 60-я гады XIX ст. - пачатак XX ст.» (1997).

# Маладыя выходзяць на бальшак

На выбары беларускія дэмакратычныя сілы ідуць трыма калонамі. Зараз пра гэта можна казаць з упэўненасцю. Удзельнічаюць «Пяцёрка-плюс», кааліцыя «Свабодная Беларусь» і блок «Маладая Беларусь». Прэзентацыя апошняга адбылася напярэдадні Дня Канстытуцыі ў Мінску. Прысутным была абвешчана праграма блоку, названы прозвішчы кандыдатаў. Самаму маладому з іх 21 год, самаму старэйшаму – крыху за 30.

Прэзентацыя была зладжана ў выглядзе «сустрэчы пакаленняў». Былі запрошаныя грамадскія дзеячы, вядомыя навукоўцы старэйшага пакалення і маладыя лідэры. Выступілі Радзім Гарэцкі, Алег Манаеў, генерал Валеры Фралоў. Ніхто з лідэраў «Пяцёркі-плюс» на прэзентацыі не прысутнічаў, але нягледзячы на гэта, у «Маладой Беларусі» гавораць пра добрыя стасункі з Кааліцыяй.

Зараз блок ужо не назавеш абстракцыяй. У параўнанні з іншымі перадвыбарчымі альянсамі, лідэры якіх да нядаўняга часу ўхіляліся ад адказаў на пытанні пра праграму, разам са спісам кандыдатаў прысутным прадставілі тэзы праграмы-мінімум. Наступным крокам будуць прэзентацыі «Маладой Беларусі» ў рэгіёнах.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Стратныя калгасы пойдуць па 8 даляраў

Урад Беларусі разлічвае, што ўказ кіраўніка дзяржавы, які прадугледжвае пяцігадовую адтэрміноўку пагашэння запазычанасці сельгаспрадпрыемстваў перад дзяржавай, дазволіць скараціць колькасць стратных прадпрыемстваў і вывесці АПК краіны на новы ўзровень. Адна з мераў прадугледжвае распродаж стратных калгасаў па сімвалічным кошце 8 даляраў.

Згодна з інфармацыяй віцэ-прэм`ера Рамана Унучкі, з 2.300 сельгаспрадпрыемстваў каля 1.000 лічацца стратнымі. У гэтай сувязі, па яго словах, урад мае намер скараціць колькасць стратных гаспадарак шляхам прыцягнення інвестыцыяў у аграрны сектар. «Дакумент дае правы інвестару выкупіць калгас за адну базавую велічыню, беручы ў доўгатэрміновую арэнду яго зямлі», – сказаў віцэ-прэм'ер.

*News.tut.by*

# Дзень волі міліцыі

Дзень Волі прайшоў у Мінску традыцыйна – гэта значыць не абышлося без затрыманняў і без парушэння правоў чалавека. На Кастрычніцкай плошчы вядомы дзеяч БНФ Вячаслаў Сіўчык, Валянцін Баранаў і Дзяніс Буйніцкі – трымалі плакаты «Жыве БНР», «Жыве незалежная Беларусь» і «Беларусы маюць права абіраць уладу». Каб даць працы міліцыі, яны прыкавалі сябе ланцугамі да слупоў. Зразумела, што «ідэалагічна дзёрзкія» плакаты былі ўшчэнт парваныя, а гэтых трох чалавек «людзі ў цывільным» вызвалілі з ланцугоў з дапамогай зубіла і адвезлі ў Цэнтральны РАУС. На плошчы Свабоды, куды народ мусіў прыйсці з кветкамі, асобы ў цывільным таксама не ўтрымаліся ад беспадстаўных рэпрэсіяў – былі затрыманы прадстаўнікі Партыі БНФ Вінцук Вячорка ды Алесь Біляцкі. Апошняга, па словах сведкаў, скруцілі, валаклі па зямлі, адзін з «людзей у цывільным» нават пачаў яго біць. Потым «зачыстку» на пляцы Волі распачалі амапаўцы. З якой падставы – незразумела. Адзіна, хіба што быў Дзень Волі, - што хачу, то і вару.

Большую частку людзей з пляцу Волі выціснулі ў бок Нямігі, некаторыя пайшлі па Інтэрнацыянальнай ў сквер Янкі Купалы.. Людзі ўскладалі кветкі да помніка вялікаму беларускаму паэту, спявалі. Вечарына, якую меліся правесці ў залі Дома ветэранаў, была адменена адміністрацыяй Дома, прычым у апошні момант. Мінскія святкаванні гадавіны БНР завяршыліся ў Доме літаратара вечарынай, падчас якой адбылася прэзентацыя чарговага нумара часопісу «Дзеяслоў», прысвечанага Дню Волі.

**У.К.**

# «Ваенны рахунак»

***Сума беларускага «рахунку» Маскве можа складаць 25 мільярдаў даляраў***

Афіцыйны Мінск дэтальна вывучае магчымасць выставіць Маскве гэтак званы «ваенны рахунак». Рахунак мяркуецца падаць за непадатлівасць Масквы ў экспартнай цане на газ.

Размова ідзе найперш пра два расійскія стратэгічныя аб'екты – радыёлакацыйную станцыю «вузел Баранавічы-2 (яна ж – нядаўна пастаўленая на баявое дзяжурства РЛС «Волга») і пункт кіравання падводнымі лодкамі ў горадзе Вілейка. Аднак Мінск глядзіць значна шырэй.

Па некаторых звестках, прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даручыў групе экспертаў Мінабароны адасобіцца ў адной з дзяржаўных рэзідэнцыяў пад Мінскам і дакладна прапрацаваць гэтае пытанне, гэтак сказаць, праверыць сумы. Сам Аляксандр Рыгоравіч яшчэ ў кастрычніку 2003 года назваў «папярэднюю» лічбу «рахунку». Патлумачыўшы, што ў выпадку змены палітычнага вектрару ваенная і памежная інфраструктуры Беларусі перастануць абслугоўваць стратэгічныя інтарэсы Расіі. І той для стварэння аналагаў на сваёй тэрыторыі спатрэбіцца ад 21 да 25 мільярдаў даляраў.

Нядаўна ў прамым эфіры беларускага тэлеканала АНТ выступіў намеснік начальніка Генеральнага штаба Узброеных сілаў Беларусі генерал-маёр Пётр Ціханоўскі, які заявіў, што выдаткі рэспублікі на ўтрыманне сістэмы супрацьпаветранай абароны (СПА), якая абараняе ў тым ліку і граніцы Расіі, складаюць звыш за 40 мільёнаў даляраў на год. «Для нас гэта вялізная сума, - акцэнтаваў увагу вайсковы начальнік. – Гэтыя грошы Расія не плаціць». Іншымі словамі, генерал заявіў, што Беларусь дарам дапамагае Расіі ў пытаннях ваеннай бяспекі.

Прыкладна ў той жа час у СМІ выступіў і апазіцыйны да Лукашэнкі экс-міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі. Адносна двух галоўных стратэгічных аб'ектаў ён наогул заявіў, што ў іх зацікаўлена толькі Масква. «Інфармацыя аб стартах балістычных ракет і ўзлётах самалётаў можа быць карысная толькі ў тым выпадку, калі наша краіна будзе праводзіць агрэсіўную палітыку і рыхтавацца да вайны. Але мы – нейтральная дзяржава. Расія ж без РЛС «Волга» на заходнім напрамку будзе цалкам сляпая». Што ж датычыць пункта кіравання расійскімі падводнымі лодкамі (да месца сказаць, такіх аб'ектаў у Расіі некалькі, яны ахопліваюць усю акваторыю Сусветнага акіяну), то, на думку Казлоўскага, ён для Беларусі «абсалютна бескарысны». «І калі Беларусь не пагодзіцца на тое, каб на яе тэрыторыі працаваў дадзены аб'ект, Расія будзе невідушчая ў значным марскім квадраце», – зазначыў генерал.

«Пакуль невядома, калі афіцыйна Беларусь выме свой «казырны туз» у эканамічнай спрэчцы з Расіяй. Той жа Лукашэнка не аднойчы заяўляў, што ніколі не будзе браць грошы з Расіі за «ваенныя выдаткі» Беларусі, бо беларускія вайскоўцы абараняюць сваіх жа братоў-расіянаў. Аднак, па ацэнках экспертаў, пасля «газавых атакаў» Расіі яго думка на гэты конт можа дыяметральна змяніцца. І Мінск сапраўды можа выставіць «рахунак» на канкрэтныя сумы.

Гэта магло б выглядаць наступным чынам.

Да 5 мільярдаў даляраў (па экспертных ацэнках) каштуе 81 стратэгічны ракетны комплекс мабільнага базіравання «Тополь» (SS-25 па натаўскай класіфікацыі), які Расіі напрыканцы 1990-х гадоў было дазволена бязвыплатна вывезці з тэрыторыі Беларусі. Патрабаванне аб аплаце можа быць выстаўлена задняй датай, пры гэтым ужо зроблена адна вельмі важная заўвага: Беларусь выпускае калёсныя шасі перасоўных ракетных комплексаў «Тополь-М», без якіх не толькі нельга стварыць новую групіроўку, але і немагчыма падтрымліваць баявы стан той, якая ўжо існуе.

335 мільёнаў даляраў штогод (па словах Лукашэнкі) складаюць выдаткі беларускіх вайскоўцаў, а таксама мытнікаў і памежнікаў, якія фактычна ахоўваюць заходнюю мяжу Расіі. Але насамрэч гэтая лічба павінна быць значна вышэй. Згодна з Дамовай аб сумесных намаганнях па ахове Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь 1995 года, Беларусь узяла на сябе абавязальцтвы забяспечваць інтарэсы Расіі на сваёй дзяржаўнай мяжы з Латвіяй, Літвой, Польшчай і Украінай (агульная працягласць 2.250 км0, у выніку чаго ў Расіі няма неабходнасці ў стварэнні памежнай інфраструктуры на беларуска-расійскім участку дзяржаўнай граніцы працягласцю 1.239 км.

Да 350 мільёнаў даляраў было выдаткавана Беларуссю пасля атрымання незалежнасці для аднаўлення, удасканалення і падтрымкі ў баявой гатоўнасці супрацьпаветранага шчыта, здольнага прыкрыць Маскву і Цэнтральны прамысловы рэгіён Расіі ад масіраванага паветранага нападу. Стварыць яму замену немагчыма ні за якія грошы, бо нельга нічым кампенсаваць 700 км адлегласці (працяг Беларусі з захаду на ўсход) і 1,5 гадзіны падлётнага часу для крылатых ракет.

Болей за 40 мільёнаў даляраў на год – утрыманне аб'яднанай сістэмы СПА, якая абараняе апроч беларускіх заходнія межы Расіі.

Дзесяткі (па іншых ацэнках – сотні) мільёнаў даляраў – за 10 аэрадромаў, здольных прымаць цяжкія бамбавікі з ядзернай зброяй, якія Беларусь падтрымлівае ў стане баявой гатоўнасці, не лічачы іншых збудаванняў, якія ў часы СССР абслугоўвалі стратэгічныя сілы. Апроч гэтага – разгалінаваная транспартная сетка ды іншыя аб'екты.

Нарэшце, 10–12 мільёнаў даляраў на год – за выкарыстанне двух галоўных стратэгічных аб'ектаў.



У іншых краінах СНГ Расія акуратна плаціць за карыстанне сваімі аб'ектамі на іхных тэрыторыях. З улікам доўгу за арэнду касмадрома Байканур Расія ў гэтым годзе заплаціць Казахстану не 115 мільёнаў даляраў, як звычайна, а 190 мільёнаў. За арэнду палігонаў «Сары-Шаган» і «Азгір» Астана ў 2004 годзе разлічвае атрымаць ад Масквы каля 30 мільёнаў даляраў. Гэтыя выплаты складуць амаль траціну ваеннага бюджэту Казахстана. Азербайджану Расія плаціць 7 мільёнаў даляраў на год за стратэгічную РЛС, якая там знаходзіцца.

5 мільёнаў даляраў на год (згодна з экспертнай ацэнкай) арэнда РЛС «Волга».

Арэнда па міждзяржаўным пагадненні ад 1995 года тэрмінам на 25 гадоў. Пры гэтым ніводзін падатак у мясцовы бюджэт не бярэцца, за што Беларусь без аплаты карыстаецца расійскім палігонам СПА «Ашулук» у Астраханскай вобласці. РЛС уваходзіць у склад Сістэмы папярэджання аб ракетным нападзе, «замыкаецца» на «ядзерны чамаданчык» прэзідэнта Расіі. Плошча не менш за 200 га. Персанал не менш за 2 тысячы расійскіх вайскоўцаў і мясцовы грамадзянскі персанал (не болей за 15%).

5–7 мільёнаў даляраў на год арэнды (экспертная ацэнка) за занальны пункт сувязі ВМФ Расіі ў Вілейцы Мінскай вобласці. Міжурадавае пагадненне аб арэндзе ад 1994 года тэрмінам на 25 гадоў. Плошча болей за 600 га. Персанал – не меней за 350 вайскоўцаў Расіі.

**Ігар ПЛУГАТАРОЎ**

***«Независимое военное обозрение»***

# Вацлаў Гавэл: Як ЕС мусіць ставіцца да Беларусі

Восем краінаў былога камуністычнага блока павінны вось-вось стаць новымі чальцамі Еўрапейскага Саюза. Становіцца сапраўднасцю тое, што яшчэ нядаўна наўрад ці хто мог сабе ўявіць. Краіны, якія 15 гадоў назад знаходзіліся пад кіраваннем таталітарных рэжымаў, якія заціскалі галоўныя правы чалавека і свабоды, краіны, чый лёс вызначаўся невялічкай купкай людзей, якія абапіраліся на ўзброеныя сілы, стануць сябрамі першай шматнацыянальнай супольнасці, якая базуецца на сапраўдных дэмакратычных прынцыпах, падзяляе агульныя каштоўнасці і адказнасць за будучыню ўсяго кантынента. Умовай для ўступлення краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў чальцы ЕС было прыняцце імі прынцыпаў дэмакратыі і законнасці.

На ўсходзе пашыраны Еўрапейскі Саюз будзе суседнічаць з Беларуссю Аляксандра Лукашэнкі. У выніку яго дзесяцігадовага аўтакратычнага праўлення краіна апынулася ў глыбокай палітычнай ізаляцыі. Аднак яе не трэба адносіць да тых, хто хоча супрацоўнічаць з Еўропай.

Адной з адметных прыкметаў недэмакратычнага рэжыму служыць заціскане грамадскай актыўнасці грамадзянаў і падаўленне іх у тых выпадках, калі яны выказваюць заклапочанасць справамі ў краіне ці спрабуюць узяць на сябе адказнасць за іх ход. Менавіта гэта адбываецца ў Беларусі, дзе яе грамадзяне штодзённа пазбаўляюцца сваіх асноўных правоў, такіх як права на свабодны распаўсюд інфармацыі ці выяўленне сваёй думкі. Заціскане вальнадумства і перасьлед на працы ці ў навучальных установах – факты паўсядзённага жыцця Беларусі, што знаходзіць замацаванне ў закоанадаўстве ў інтарэсах тых, хто трымае ўладу.

Зацвярджэнне рэпрэсіяў і карупцыі ў якасці сацыяльна-палітычных нормаў у абстаноўцы ўнутранай несвабоды вядзе да таго, што ў людзей выпрацоўваецца пазіцыя «мая хата з краю», калі грамадская актыўнасць успрымаецца як нешта неразумнае, а пераслед ці нават знікненне суграмадзянаў пачынаюць расцэньваць як вынік іх неабдуманых учынкаў. Аднак дзейнасць некаторых групаў актывістаў і пэўных асобаў развейвае ўяўленні пабочнага назіральніка пра Беларусь як пра грамадства, асуджанае на такі незайздросны лёс. Лукашэнка ўсвядамляе, што гэтыя людзі – шчырыя працўнікі карупцыі і носьбіты вальнадумства, якое можа паступова выліцца ў свабоднае волевыяўленне на выбарах. Іншымі словамі, свабодная будучыня Беларусі залежыць ад цяперашніх незалежных грамадзянскіх ініцыятываў.

Беларусь яўна засяроджвае сваю ўвагу на традыцыйна шчыльных адносінах з Расіяй, і Еўропа яе не клапоціць. Тым не менш, расце пакаленне, якое звязвае сваю будучыню якраз з Еўрапейскім Саюзам. Гэта ў асноўным тыя людзі, хто намагаецца крытыкаваць карупцыю, хлусню і перакручванне фактаў афіцыйнымі СМІ насупраць пагрозам для свайго дабрабыту і часта нават для сваёй бяспекі. Гэтыя іншадумцы, падобна дысідэнтам у Чэхаславакіі, Польшчы і Венгрыі пры камуністычным рэжыме, складаюць меншыню, і іхны ўплыў можа падацца нязначным, як і іхныя шанцы на поспех. Магчыма, гэта і нараджае сумнеў у еўрапейскіх грамадзянаў, іх скептыцызм і пачуццё безнадзейнасці ў тым, што датычыць лёсу беларусаў, іх новых суседзяў.

Да апошняга часу Еўропа трывала рэжым Лукашэнкі, крытыкуючы і трымаючы яго ў ізаляцыі, але настаў час аказаць падтрымку тым, хто цэніць адносіны супрацоўніцтва і партнёрства ў Еўропе. Відочна, што ў дачыненні да Беларусі гэта не яе афіцыйныя прадстаўнікі, а дэмакратычная апазіцыя, асобныя незалежныя асобы – студэнты і грамадзяне, для якіх дэмакратычная Беларусь азначае еўрапейскую Беларусь.

Я глыбока перакананы, што Еўрапейскаму Саюзу варта не пакідаць у ізаляцыі афіцыйных беларускіх прадстаўнікоў, здзяйсняць як мага болей праграмаў, ствараць як мага болей фондаў, якія падтрымліваюць тых, хто гатовы супрацоўнічаць насуперак перашкодам, утвораным існуючым рэжымам. У гэтым палягае адзіная магчымасць змяніць сітуацыю і стварыць перадумовы для свабодных выбараў. Ад беларусаў будзе залежаць, ці захочуць яны далучыцца да Еўропы ці не, іхны выбар трэба будзе паважаць. Але дзверы трэба трымаць адчыненыя.

Я лічу, што будучыня Беларусі шчыльна звязаная з будучыняй Еўропы, таксама як будучыня Еўропы – з дэмакратычнай і незалежнай Беларуссю. Я ўпэўнены, што супрацоўніцтва з праеўрапейску настроенай часткай беларускага грамадства можа прывесці да таго, што цяпер цяжка сабе ўявіць, што Беларусь стане яшчэ адной краінай былога камуністычнага блоку, дзе запануе дэмакратыя, і будзе часткай аб'яднанай Еўропы.

***«The Independent»***

# Ціхая ліквідацыя

## *Пад пагрозай страты высокага навуковага статуса апынуўся Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны*

Пасля закрыцця Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа пад гэтакай жа пагрозай апынулася яшчэ адна нацыянальная ўстанова. Напрыканцы мінулага года першы намеснік міністра адукацыі А.І.Жук выступіў з ініцыятывай перадачы Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны ў падпарадкаванне ўстанове адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка».

Скарынаўскі Цэнтр быў створаны ў 1991 годзе. Распачынаў яго працу знаны навуковец Адам Мальдзіс. На пачатку арганізацыя існавала ў структуры Нацыянальнай Акадэміі навук і непасрэдна падпарадкоўвалася Міністэрству культуры. У 1993 годзе Цэнтр перайшоў у падпарадкаванне Міністэрства адукацыі.

Пасля рэарганізацыі, якая плануецца міністэрствам, Цэнтр страціць статус «нацыянальнага» і ператворыцца ў шэраговае падраздзяленне навучальнай установы. Ва універсітэце абяцаюць захаваць Цэнтру памяшканне, а таксама ўласны рахунак арганізацыі. Аднак, паводле меркавання супрацоўнікаў Цэнтра, такія змены – адвочны крок да закрыцця. Непазбежным будзе згортванне навуковых і асветніцкіх праектаў, якія ўжо на працягу многіх гадоў вядзе гэтая навукова-асветніцкая ўстанова.

**У адказ на захады Міністэрства адукацыі калектыў «Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны» падаў ліст прэм'ер-міністру Сяргею Сідорскаму, у якім пазначана, што «ў выніку такой рэарганізацыі Цэнтр губляе высокі статус установы агульнанацыянальнага маштабу, пад пытанне ставяцца магчымасці рэалізацыі навуковых і асветных праектаў, якія выходзяць далёка за межы сістэмы адукацыі. Падобныя крокі накіраваны фактычна на дэстабілізацыю сітуацыі ўнутры краіны, на падрыў аўтарытэту дзяржавы і ўлады ў вачах міжнароднай супольнасці, у тым ліку і беларускай дыяспары».**

Пра сітуацыю распавядае Любоў **УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны:**



– Зараз калектыў і кіраўніцтва Цэнтра знаходзіцца ў сітуацыі змагання. Мы хочам адстаяць Цэнтр як незалежную навукова-даследчую інстытуцыю, дзейнасць якой можна назваць унікальнай. Вельмі істотна, што гэта дзяржаўны інстытут. Доўгі час Цэнтр захоўваўся як самастойная адзінка, юрыдычная асоба. Мы супрацоўнічалі з ведамствамі, міністэрствамі і грамадскімі арганізацыямі. За апошнія гады было некалькі спробаў ліквідацыі ці рэарганізацыі Цэнтра.

**– Якія канкрэтна спробы прадпрымаліся?**

– Было некалькі захадаў з боку Міністэрства адукацыі перадаць Цэнтр нейкай структуры ці іншым чынам пазбавіцца ад нас. Апошнім часам Цэнтр зацвердзіў новыя напрамкі дзейнасці. Мы сапраўды пачалі працаваць як Інстытут Беларусі, без усялякага перабольшвання. Наш праект па стратэгіі нацыянальна-культурнага і духоўнага развіцця быў падтрыманы АБСЕ і ЮНЕСКО. Зараз мы рыхтуем навуковы дакумент, які не мае аналагаў ні ў суседніх краінах, ні нават у свеце. Я гэтаму вельмі рада, і спадзяюся, што мы зможам паспяхова завяршыць першы этап гэтага праекта і тым паказаць, што Цэнтр мае перспектыву і дзяржаўнае значэнне.

**– З чым звязаная гэтая навуковая праца?**

– З распрацоўкай стратэгіі нацыянальнага развіцця Беларусі. Комплексна, міждысцыплінарна, сістэмна такой працай больш ніхто не займаецца. Мы спрабуем вызначыць мэты развіцця Беларусі, адказаць на пытанні: куды рухаецца краіна? што нам трэба рабіць? як развіваць культуру і духоўнасць? Гэта асноўныя часткі нацыянальнага быцця. У нас існуе неразуменне гэтых пытанняў і адсутнасць агульнай стратэгіі ў краіне ў цэлым. І хто гэта павінен рабіць як не інтэлектуалы, якія распрацоўваць гэтую праблему на беларускай традыцыі, з улікам беларускіх нацыянальных інтарэсаў, з улікам неабходнасці ўмацавання беларускай дзяржаўнасці? Мы падключаем да гэтага праекта самых вядомых спецыялістаў Беларусі і замежжа.

**– Што канкрэтна сталася пачаткам праблемнай сітуацыі?**

– Не ведаю. Мае здагадкі маюць інтуітыўны характар і не пацвярджаюцца дакументамі, таму я не збіраюся іх агучваць. Я хачу сказаць, што гэты крок непрадуманы, нелагічны і непаслядоўны. Гэта не дзяржаўны падыход. У людзей, якія прымалі гэтае рашэнне, выяўляецца адсутнасць патрыятызму, адказнасці і дзяржаўнага мыслення. Гэта адвочна. Мала хто ведае пра гэтыя змены, якія з намі адбываюцца. Людзі здзіўляюцца і не вераць, што такая сітуацыя магчымая.

Нас перадаюць педагагічнаму універсітэту і пазбаўляюць права юрыдычнай асобы. Фактычна гэта азначае ліквідацыю арганізацыі. Пазначана, што нас перадаюць у якасці падраздзялення, але гэта адвочна здача пазіцый.

**– Ці вядомая вам пазіцыя ўладаў па гэтым пытанні?**

– Пазіцыя міністэрства адназначная. А іншым няма справы, бо лічыцца, што калі Цэнтр падпарадкоўваецца Міністэрству адукацыі, значыць усіх астатніх яго праца не тычыцца. Тое, што арганізацыя пераходзіць пад начала педагагічнага універсітэта, не адпавядае ні мэтам, ні задачам, ні статусу Цэнтра. Многія здзіўляюцца, не пагаджаюцца, але ці будуць нейкія крокі з іх боку, каб гэтае рашэнне змяніць, пра гэта я сказаць не магу.

**– Калі Цэнтр пяройдзе да педагагічнага універсітэта, якія перспектывы яго чакаюць, на вашу думку?**

– Гэта згортванне. Нават калі арганізацыя захаваецца ў якасці нейкага структурнага падраздзялення. Да якой ступені згортванне, мне пакуль цяжка сказаць. Я не ведаю, якое ўказанне атрымаў рэктар педагагічнага універсітэта ад міністра адукацыі.

Цэнтр напэўна стварае шмат праблемаў, узнімае шмат пытанняў. Напрыклад, праблемы беларускамоўнага навучання, праблемы нацыянальнай свядомасці.

Магчыма, гэта пераход у нейкую іншую форму працы. Галоўнае зараз захаваць тое, што магчыма. Захаваць кадры, напрацоўкі і традыцыі з тым, каб пры спрыяльных умовах можна было б усё гэта адрадзіць і пашырыць. А ў якім стане будзе знаходзіцца Цэнтр пры універсітэце, думаю, гэтага не ведае ні рэктар, ні самое міністэрства. У любым выпадку мы змагаемся за тое, каб спыніць наступствы гэтай непрадуманай дзяржаўнай акцыі..

**– Ці сустракаліся вы з рэктарам?**

– Неаднаразова. Мы хадзілі да яго ўсім калектывам. Ён паабяцаў захаванне назвы, канешне, за выключэннем слова «нацыянальны». Абяцаў захаваць памяшканне і рахунак. Але як будзе на самой справе, сказаць цяжка. Адзінае, што рэктар дакладна нам сказаў, што Цэнтр не будзе мець ніякага фінансавання з крыніцаў універсітэта. Для нас пытанне фінансаў вельмі важнае. Калі не будзе фінансавай падтрымкі, то я не бачу нічога станоўчага на ўсёй гэтай «рэформе». Адзінае, што магчыма, нам удасца больш глыбока інтэгравацца ў выхаваўчы працэс, актыўна працаваць са студэнтамі.

**– Ці прыходзяць працаваць у Цэнтр новыя кадры?**

– У нас працуюць такія вядомыя вучоныя, як Ул.Конан, М.Крукоўскі, Л.Лыч, А.Грыцкевіч, Г.Цыхун. Ёсць маладыя камунікабельныя людзі, гатовыя займацца арганізацыйна-асветніцкай працай. Большасць супрацоўнікаў – гэта вучоныя з навуковымі ступенямі.

У нас у краіне беларусазнаўства было прадстаўлена пераважна ў краязнаўчым плане – гэта вельмі важна, але недастаткова. За апошнія 2–3 гады мы пачалі вывучаць тэарэтычныя праблемы. Мы пачынаем асвойваць тыя дзялянкі, дзе беларуская нацыя слабейшая ў параўнанні з іншымі. Толькі пачала запаўняцца гэтая ніша, і тут жа ўзніклі праблемы з закрыццём.

**Уладзімір КОНАН, доктар філасофскіх навук, прафесар, намеснік дырэктара Цэнтра:**



– Многае залежыць ад стратэгіі развіцця вышэйшай адукацыі. Справа ў тым, што ўсе еўрапейскія універсітэты маюць у сваім складзе навукова-даследчыя інстытуты, якім нададзены статус юрыдычнай асобы. Фактычна асноўная навука ў Еўропе ствараецца ва універсітэтах. Таму калі педагагічны універсітэт атрымае ў нашай асобе такі навукова-асветніцкі даследчы інстытут з захаваннем статуса юрыдычнай асобы, то гэта было б правільна. Добра было б, каб рэарганізацыя адбывалася на еўрапейскі ўзор. Але ў нас задумаюць адно, а робяць іншае.

Другі варыянт больш негатыўны – калі Цэнтр будзе пазбаўлены статуса юрыдычнай асобы.

За намі лічацца зацверджаныя дзяржаўныя тэмы і мэты, якія павінны выконвацца, а каб яны выконваліся, хаця б часткова, патрэбна падтрымка. Але сродкі эканомяць у нас не на вялікіх арганізацыях, а на беларускіх. Зараз усё залежыць не ад нас, а ад агульнай стратэгіі ў галіне навукі і вышэйшай адукацыі.

**Мікола КРУКОЎСКІ, доктар філасофскіх навук, прафесар:**



– Фактычна, калі адбудзецца гэты пераход пад кіраўніцтва педагагічнага універсітэта, гэта будзе азначаць ліквідацыю. Цэнтр ужо не будзе мець статуса юрыдычнай асобы і фактычна перастане быць беларускай асветніцкай арганізацыяй. Памяшканне, у якім мы зараз месцімся, мае для нас вялікае значэнне. Некалі менавіта тут быў створаны «Інбелкульт». Гэтая традыцыя нам вельмі дарагая, мы яе шануем і захоўваем.

Калі кіраўніцтва універсітэта будзе ўмешвацца ў працу Цэнтра, цалкам магчыма, што можа быць перакрэслена і тэматыка нашай дзейнасці. А памяняць тэматыку азначае памяняць душу. Тэматыка – неад'емная частка працы арганізацыі як установы развіцця нацыянальнай культуры. Пры іншых умовах з часам «Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны» мог бы стаць моцнай нацыянальнай арганізацыяй.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, доктар гістарычных навук, прафесар:**



– Рэарганізацыя – гэта шлях да закрыцця. Умовы такія, што Цэнтр будзе фактычна пазбаўлены фінансавання. Магчыма, ён ператворыцца ў навукова-асветніцкі аддзел педагагічнага універсітэта. Пры скарачэнні фінансавання і пазбаўленні статуса юрыдычнай асобы арганізацыю будзе вельмі проста зачыніць.

Гэта наступства агульнай палітыкі скарачэння беларускіх установаў. У гэтым меркаванні няма ніякіх асабістых выпадаў супраць каго-небудзь. Гэта агульнае рэчышча антынацыянальнай палітыкі. Я ўвогуле аптыміст, але ў гэтай сітуацыі спадзяванняў мала.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



**Сумная сімволіка: у гэтым будынку на Рэвалюцыйнай вуліцы ў Мінску месціўся Інбелкульт, з якога дзякуючы клопату тагачасных уладаў паўстала Акадэмія навук Беларусі. Апошняе дзесяцігоддзе ў гэтым будынку меў прытулак Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны, цяпер дзякуючы ініцыятывам улады ён драбнее да велічыні дапаможнага метадычнага падраздзялення пры дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.**

# Партыя супраць ГРУ

*Не надта вядомыя старонкі савецкага партызанскага руху ў Беларусі*

Падчас нямецкай акупацыі Беларусі 1941–44 гг. савецкі партызанскі рух быў неаднародным. Большасьць атрадаў падначальвалася Беларускаму штабу партызанскага руху ў Маскве, але на тэрыторыі рэспублікі дзейнічалі нямала спэцгрупаў Галоўнага разьведвальнага ўпраўленьня Чырвонай Арміі і НКДБ СССР, у якіх было сваё кіраўніцтва. Брак каардынацыі, да таго ж існуючая канкурэнцыя, прыводзілі да ўзьнікненьня канфліктных сытуацыяў, а нярэдка – і трагэдыяў. Праўда, найчасьцей цярпелі ад гэтага звычайныя мірныя жыхары. Архіўныя дакумэнты сьведчаць, што прысланыя з-за лініі фронту дэсантнікі іх не толькі зьбівалі, рабавалі, але і забівалі.

## Дэбашыра адправілі ў Маскву

Дваццатага верасьня 1943 году начальнік ГРУ генштабу Чырвонай Арміі атрымаў наступнае паведамленьне (гэты і іншыя архіўныя дакумэнты падаюцца ў перакладзе з расейскай мовы):

«Сакрэтна

Начальніку Галоўнага разьведвальнага

ўпраўленьня Чырвонай Арміі

тав. Ільічову І.І.

Па даручэньню Начальніка Беларускага штабу партызанскага руху тав. Калініна П.З. дасылаю Вам для азнаямленьня дакладную запіску сакратара Палескага абкаму КП(б) Беларусі тав. Вятрова па пытаньню правакацыйных паводзінаў групы ГРУ Карнеева...

Начальнік Сакрэтнага аддзела штабу – (М. Каралёў)» (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ, ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 283).

Сакратар Палескага абкаму партыі І.Вятроў дакладваў П.Панамарэнку і П.Калініну жудасныя факты дзейнасьці групы Галоўнага разьведвальнага ўпраўленьня Чырвонай Арміі ў Беларусі. Закінутая яна была на самалёце ў ліпені 1942 г., камандаваў ёй старшы лейтэнант Карнееў. Партыйны функцыянер сьцьвярджаў, што група ГРУ складалася «ў сваёй большасьці са злачыннага элемэнту, асуджаных на працяглы тэрміны турэмнага зьняволеньня». Далей у дакумэнце ідуць факты.

«Карнееў і яго група сыстэматычна п'янствуюць як у вёс[ках], дзе яны разьмяшчаюцца, так і па шляху прасоўваньня на апэрацыі, пры чым п'янкі суправаджаюцца дэбошам, бойкамі паміж сабой і зьбіцьцём насельніцтва, – піша Вятроў. – У сакавіку–красавіку 1943 г. 4 байцы групы Карнеева на чале з байцом Дзянісенкам у вёс. вёс. Дуброва, Бяседы, у 2 гадзіны начы ставілі [сялянаў] да сьценкі на расстрэл, стралялі ў дамах і патрабавалі гарэлкі ад сялянаў гэтых вёсак Аўгустоўскай Алены, Мендык Юзэфы і Рудзінскай Еўдакіі. У вёс. Дуброва, дзе разьмяшчаецца група, няма ніводнага дома, які ня быў-бы прастрэлены байцамі Карнеева... У чэрвені м-цы 1943 г. байцы гэтай групы ў п'яным выглядзе прыйшлі да гр-кі вёс. Дуброва – Коржыц і пачалі патрабаваць гарэлкі, калі ім у гэтым адмовілі, яны ўзялі яе 15-гад[овага] хлопчыка – Коржыц Паўла і павялі яго расстрэльваць, у гэтую справу ўмяшаўся камісар атрада Ігуменава – т. Плыткевіч, яны адкрылі страляніну, пагражалі расстрэ[лам] камісару і паранілі яго. У жніўні м–цы 1943 году байцы групы Карнеева ў вёс. Дземенка забралі ў селяніна каня, прапілі яго за 16 літраў гарэлкі, зьбілі селяніна Вырвіч Якава пісталетам па галаве, пасьля чаго пачалі мяняць соль і парашуты на гарэлку. Атрад т. Вырвіча, які там стаяў, пачаў раззбройваць гэтых байцоў групы Карнеева, [але] яны аказалі ўзброены супраціў, у выніку чаго быў паранены адзін баец групы Карнеева. Камандзір групы Карнееў замест таго, каб прызваць сваіх байцоў да парадку, узяў з сабой некалькі байцоў з кулямётам, прыбыў у вёс. Варашылава, акружыў штаб злучэньня партызанскіх атрадаў Палескай вобласьці, патрабаваў выдачы яму камандзіра атрада т. Вырвіча на расправу... Акрамя таго праз некаторы час Карнееў другі раз у п'яным выглядзе прыбыў у штаб злучэньня, паставіў у дзьвярах штабу аўтаматчыка і наладзіў дэбош» (НАРБ, ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 284, 284 адв.).

Што ж прадпрымае мясцовае партыйнае і партызанскае кіраўніцтва ў сытуацыі, калі старшы лейтэнант нападае на штаб і наладжвае там дэбош? Яно тры разы (!) выклікае яго для размовы ў абкам. У прысутнасьці сакратара ЦК КП(б)Б Аўхімовіча Карнееву было «указана на недапушчальнасьць у далейшым такіх правакацыйных паводзінаў». Афіцэр ГРУ уважліва выслухаў крытыку і паехаў, нічога не абяцаючы. У яго ягонай групе ўсё заставалася па-ранейшаму.

28 жніўня 1943 году Карнееў, «напіўшыся п'яным», наладжвае чарговы дэбош. Тут ужо цярпеньне партыйцаў скончылася. Яго выклікалі ў абкам, абяззброілі і самалётам адправілі ў Маскву. Засталося разабрацца зь яго групай, якая, пазбавіўшыся камандзіра, магла нарабіць нямала бедаў. Але абкам спазьніўся. ГРУ, даведаўшыся пра «дэпартацыю» Карнеева, тэрмінова накіравала яму на замену капітана Коўтуна.

1 кастрычніка 1943 году намесьнік начальніка разьведупраўленьня генштабу Чырвонай Арміі генэрал-маёр Вавілаў накіроўвае ліст на імя начальніка Цэнтральнага штабу партызанскага руху і кіраўніка кампартыі Беларусі П.Панамарэнкі. Ён паведамляе, што капітан Коўтун правёў праверку выкладзеных у дакладной Вятрова фактаў, большасьць зь якіх не пацьвердзіліся. «У групе асуджаных альбо рэпрэсаваных байцоў няма, акрамя аднаго байца, які раней быў асуджаны за хуліганства... Адначасова ў працэсе сьледзтва выяўлена, што, сапраўды, мелі месца асобныя факты п'янства і марадзёрства», – пісаў генэрал-маёр Вавілаў. Ён паведаміў, што Карнееў някепска выканаў баявыя задачы, група яго «ў добрым стане і зусім баяздольная», расстралялі толькі байца Дзянісенку ды двох, верагодна, з мясцовых, адлічылі з групы. Карнеева ж да судовай адказнасьці не прыцягвалі. Хутчэй за ўсё, зноў накіравалі яго за лінію фронту, толькі ўжо ў іншы раён...

## Як вербавалі партызанскіх камандзіраў

Здавалася, што гісторыя з групай старшага лейтэнанта Карнеева – выключны факт. Але архіўныя дакумэнты сьведчаць пра тое, што падобныя выпадкі здараліся і ў іншых раёнах Беларусі.

Начальнік БШПР П.Калінін у дакладной запісцы да П.Панамарэнкі ад 27 чэрвеня 1943 г. адзначаў, што «на часова акупаваную тэрыторыю Беларусі ў розны час была закінутая значная колькасьць разьведвальных і дывэрсыйных групаў. Групы закідаліся Разьведвальным Упраўленьнем Генштабу Чырвонай Арміі, 4 Упраўленьнем НКДБ СССР, разьведвальнымі аддзеламі штабоў Калінінскага, Заходняга і Цэнтральнага франтоў і ім падначаленых арміяў, і некаторымі абласнымі ўпраўленьнямі НКДБ. Большасьць згаданых групаў, базуючыся ў месцы знаходжаньня партызанскіх брыгадаў і атрадаў, самастойнай разьведкі не арганізавалі і карыстаюцца амаль выключна данымі партызанскай разьведкі, даносячы сваім цэнтрам атрыманыя ў партызанаў зьвесткі як «даныя агэнтуры»... Прыкрываючыся «выкананьнем урадавага заданьня» і не адчуваючы над сабой кантроля, такія спэцгрупы нярэдка пераўтвараюцца ў групы марадзёраў, рабаўнікоў і забойцаў» (НАРБ, ф. 3500, воп.1, спр.2, арк.328, 328 адв.).

П.Калінін пасылае рапарт за рапартам. 29 чэрвеня 1943 году ён паведамляе Панамарэнку пра дывэрсыйную групу ГРУ Навумовіча, якая «расклалася і занялася п'янствам, рабункамі, гвалтаваньнем жанчынаў і забойствамі ні ў чым невінаватых людзей» (НАРБ, ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 338).

Партызанскае кіраўніцтва арыштавала Навумовіча, частку яго памочнікаў расстраляла, а група была расфармавана. У той жа дзень Калінін дакладвае начальніку ГРУ генэрал-лейтэнанту Кузьняцову пра сытуацыю на Лагойшчыне: «Брыгада Захарава (супрацоўнік РУ) маральна расклалася, баявой дзейнасьці на працягу году не вяла, рабуюць мясцовае насельніцтва; камандзіры на чале з Захаравым п'янствуюць, наладжваюць імяніны, вясельлі. Сьвядома забіваюць лепшых камандзіраў іншых партызанскіх атрадаў» (НАРБ, ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 337).

21 жніўня 1943 г. Калінін піша Панамарэнку пра тое, што групы ГРУ маюць заданьне вэрбаваць у якасьці сваіх агентаў камандзіраў партызанскіх атрадаў, з мэтай атрыманьня ад іх разьведвальнай інфармацыі. Напрыклад, камандзір спэцгрупы ГРУ «Марскі», якая дзейнічала ў Магілёўскай вобласьці, «завэрбаваў камандзіраў партызанскіх атрадаў Кананыхіна Івана Васілевіча, якому даў мянушку «Сьмелы», Вячоркава – пад мянушкай «Ластаўка» і Карзюкова С.Н. Апошнімі ён вельмі задаволены, бо яны на яго працуюць...» (НАРБ, ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 343).

А старшы лейтэнант Васіль Аляксейчык, камандзір групы ГРУ на Берасьцейшчыне, «дайшоў да такой нахабнасьці», што забараніў мясцовым партызанскім атрадам кантактаваць з прадстаўніком БШПР. Сваё дзеяньні ён тлумачыў так: «Я маскоўскага партызанскага штабу не прызнаю і дзейнічаю па даручэньню маршала Жукава» (НАРБ, ф. 3500, воп.1, спр. 2, арк. 336).

## Расстрэл у Сукачах

У Жыткавіцкім раёне Палескай вобласьці дзейнічала дывэрсыйная група ГРУ капітана «Чорнага». Як вынікае з дакладной запіскі, якая ў ліпені 1943-га лягла на стол П.Панамарэнкі, на працягу 1942-43 гг. група «Чорнага» расстраляла дзясяткі мірных жыхароў. Байцы Уладзімер Вераб'ёў, Пятро Сідараў і іншыя забілі маладых дзяўчат, якія «адмовіліся ад сужыцельства зь імі». Сярод іх была Паліна Канашына зь вёскі Юркевічы, каштоўны агент партызанскага атрада імя 1 Мая Палескага злучэньня. Людзі «Чорнага» часта са схованак, без праверкі дакумэнтаў, забівалі мясцовых жыхароў, якія зьбіралі ў лесе ягады, грыбы альбо нарыхтоўвалі дровы. Стралялі з бязгучнай зброі.

Жудасная гісторыя адбылася 11 красавіка 1943 г. у вёсцы Сукачы Жыткавіцкага раёну. Па загаду капітана «Чорнага» яго байцы расстралялі 20 сем'яў зь дзецьмі, якія хаваліся ад немцаў недалёка ад вёскі. Сярод забітых была маці загінуўшага партызана Альбіна Герман. Яе расстралялі разам з 12-гадовым сынам. Яўгенію Галіцкую, жонку партызана, забілі разам зь яе двума дзецьмі 2–5 гадоў... «Расстрэл зьдзейсьнены без усялякай на тое падставы», - пісаў начальнік БШПР (НАРБ, ф. 3500, воп.1, спр. 2, арк. 87, 345).

**Сяргей ЁРШ**









# Чачэнская Хатынь

***Засакрэчаная трагедыя: у 1944 годзе ў стайні высакагорнага аула Хайбах былі жыўцом спалены 705 чалавек***

**З рапарта начальніка канвойных войскаў НКУС генерала Бачкова:** ***«Товарищу Берии Л.П. Докладываю, что... всего принято для конвоирования и отправлено 180 эшелонов – по 65 вагонов в каждом, с общим количеством переселяемых 493.269 человек... Отправка эшелонов в пункты назначения началась 23.2.44 г. и закончена 20 марта... Причинами смертности в пути являются: преклонный и ранний возраст переселяемых, вследствие чего отсутствовала необходимая сопротивляемость их организма изменившимся атмосферным и бытовым факторам».***

Старыя, жанчыны і дзеці аула Хайбах не маглі спусціцца з гор і тым самым зрывалі планы дэпартацыі. Пра тое, што з імі здарылася потым, апавядае кіраўнік пошукавага цэнтра «Подзвіг» Міжнароднага саюза ветэранаў войнаў і ўзброеных сілаў, які ўзначаліў у 1990 годзе Надзвычайную камісію па расследаванні генацыду ў Хайбахе, **Сцяпан КАШУРКА.**

**– Чаму менавіта вам было даручана ўзначаліць надзвычайную камісію?**

– Напярэдадні 20-годдзя Перамогі маршала Конева прызначылі старшынёй Цэнтральнага штабу Усесаюзнага паходу па дарогах вайны. Я быў капітан-лейтэнант ВМФ у запасе, журналіст. Лічыў сябе вучнем Сяргея Сяргеевіча Смірнова, аўтара знакамітай «Брэсцкай крэпасці». Коневу быў патрэбны такі памочнік, і ён узяў мяне паручэнцам па асабліва важных справах вышуку герояў вайны.

**– У СССР гэтая трагедыя была засакрэчаная. Як вы даведаліся пра яе?**

– След яе знайшоўся на Украіне каля горада Ноўгарад-Северскага. У палаводдзе бераг Дзясны адкрыў рэшткі кавалерыстаў у каўказскіх бурках. Разведчыкі 2-га гвардзейскага Каўказскага кавалерыйскага корпуса загінулі 12 сакавіка 1943 года, выконваючы ў тыле ворага спецыяльнае заданне генерала Ракасоўскага. У аднаго з іх у пакеце былі смяротны медальён, фотакартка, выразка з армейскай газеты і пісьмо да маці ў Хайбах. Гэта быў камандзір узвода Бексултан Газоеў. Паведамляю пра героя на радзіму. Адказ з Грознага: «Населенага пункта Хайбах у Чачэна-Інгушскай АССР няма». Але ў пісьме да маці Газоеў назваў дакладны адрас: Хайбах, Галанчожскі раён, Начхоеўскі сельсавет. Я палячеў у Грозны.



«Даўся вам гэты Хайбах! – сказаў мне Даку Заўгаеў, першы сакратар Грозненскага абкама. – Ну, быў да вайны. А ў вайну не стала». Я настойваў: трэба знайсці родных героя. Ён доўга намагаўся змяніць тэму размовы, але ўсё ж прызнаў: «Людзі згарэлі пры дэпартацыі». Як жа так? Чалавек за радзіму жыццё аддаў, а яго родных – спалілі?. «Не кіпяціцеся! – асадзіў мяне Заўгаеў. – Быў загад Сталіна. Аб гэтай гісторыі гаварыць і пісаць забаронена».

**– І што вы зрабілі?**

– Вярнуўся ў Маскву, каб знайсці архіўныя матэрыялы. Дакументы спецыяльнай камісіі ЦК КПСС захоўваліся ў загадчыка агульнага аддзела ЦК. Давялося звяртацца да Гарбачова. Ён даў дазвол. Я зноў прыехаў у Грозны – і ў гасцініцу пацягнуліся людзі. Упрошвалі не адступаць. «На руках цябе панясем у Хайбах!» (былі ўзарваныя ўсе дарогі ў забароненую зону). Старшыня чачэна-інгушскага Саўміна Сяргей Бекаў прапанаваў стварыць надзвычайную камісію па расследаванні генацыду ў Хайбахе. Старшынёй выбралі мяне.




**– Што вы ўбачылі ў Хайбаху?**

– Радавую вежу, абгарэлыя слупы стайні. І старых чачэнцаў – яны дабіраліся туды двое сутак. Мы кінуліся да папялішча. На мой жах, мая нага правалілася ў грудную клетку спаленага чалавека. Нехта закрычаў, што гэта яго жонка. Я з цяжкасцю вызваліўся з гэтага сілка. Відавочца спалення Дзіяўдзін Мальсагаў (былы намеснік наркома юстыцыі) расказаў старым, што ён перажыў на гэтым месцы 46 гадоў назад, калі яго прыкамандзіравалі ў дапамогу НКДБ. Людзей прарвала. Казалі аб спаленых маці, жонках, бацьках, дзядах...

**– Пачатак трагедыі 1944 года вядомы – людзей грузілі ў вагоны і адпраўлялі ў Казахстан.**

– Так, але падрабязнасцяў не ведаюць. Часткі і падраздзяленні НКДБ і НКУС раскватараваліў рэспубліцы пад выглядам франтавікоў, якія прыбылі на адпачынак. Раніцай 23 лютага быў перададзены радыёсігнал «Пантэра»: прыступіць да дэпартацыі ўсяго насельніцтва. У шэсць гадзін раніцы 150 тысяч оперработнікаў НКДБ-НКУС і СМЕРШ, салдат і афіцэраў войскаў НКУС уварваліся ў хаты ( на кожнага – па тры мірныя жыхары). Везлі на грузавіках да чыгункі, адтуль эшалоны з таварняка і з вагонаў для перавозкі быдла паімчалі ў стэпы Кіргізіі і Казахстана, пакідаючы на пероннах тысячы непахаваных нябожчыкаў. У 11 раніцы Берыя тэлеграфаваў Сталіну: «Высяленне праходзіць нармальна. Здарэнняў, якія заслугоўваюць увагі, няма». Увечары Берыя ўчыніў у Грозным пір.

**– Чаму гэтыя 705 чалавек не дэпартавалі разам з усімі?**

– Напярэдадні выпаў снег. З гор нельга было спусціць жанчын з дзецьмі, хворых і старых. Усіх нямоглых сагналі ў Хайбах, у тую самую стайню калгаса імя Берыі. Канваіры аб'явілі: не хочаце замёрзнуць – уцяпляйце сарай. І людзі саломай і сенам абкладвалі сцены, пакрывалі падлогу.

Начальнік Галанчожскага аператыўнага сектару даклаў аб поспехах камандуючаму аперацыяй камісару дзяржбяспекі 3-га рангу генерал-маёру Гвішыані. Спытаў, што рабіць з дзецьмі, просяць есці. «Накормім усіх!» – адказаў генерал. У 11 раніцы на радыёсувязь выйшаў Берыя – і ўсё вырашылася. Падпальшчыкі пабеглі вакол стайні, Гвішыані скамандаваў: «Агонь!». Ударылі кулямёты. Неўзабаве пайшоў дождж, полымя загасла, але людзі ўжо былі мёртвыя...

**– Усё гэта вы даведаліся ў Хайбаху?**

– Так. Апроч Мальсагава, былі яшчэ відавочцы – назіралі здалёк і не пасмелі вярнуцца. Памяталі пра гэта ўсё жыццё і не верылі, што злачынцаў пакараюць. Мы склалі акт абследавання. Чачэнцы прасілі прывезці да іх Гвішыані, няхай паглядзіць людзям у вочы. Я паабяцаў выканаць просьбу.

**– Неверагодна. Вы збіраліся запрасіць Гвішыані ў Хайбах?**

– Мы вырашылі выкрасці яго. З дапамогай Звіада Гамсахурдзія прыбылі ў багаты дом. Але лёс асцярог ката ад адказнасці – мы спазніліся: разбіты паралічам, ён памёр. У Хайбах мы вярнуліся праз тры дні. Горцы сказалі толькі: «Сабаку сабачая смерць!» Мы спалілі на тым месцы, адкуль ён камандаваў «Агонь!», яго паўтараметровы партрэт.

**– Што было далей?**

– Праз тыдзень пракурор Урус-Мартанаўскага раёна Руслан Цакаеў узбудзіў крымінальную справу № 90610010. Следства цягнулася тры гады. У рэшце рэшт расследаванне было даручана ваеннай пракуратуры Грозненскага гарнізона, потым перададзена ў Растоў-на-Дану... Але давесці яго да канца так і не ўдалося, судова-прававую ацэнку гэтае жудаснае злачынства так і не атрымала, злачынцы засталіся неназваныя і непакараныя.

**Вольга ЦІМАФЕЕВА**

*«Новая газета»*

# *Два браты - адзін лёс...*

Да вайны 1941 года мне ўжо было амаль 9 гадоў, і я добра памятаю двух сваіх старэйшых батоў - Валянціна і Генадзя. Памятаю, як яны вадзілі мяне ў Палац піянераў, што быў на вуліцы Энгельса, дзе ў невялікім парку стаяў драўляны слон, па спіне якога можна было скатвацца, як з горкі. Валянціну на пачатак вайны было 14, а Генадзю – 16 з паловай. Мы жылі ў Мінску на вуліцы Маскоўскай, насупраць малочнага завода. Бацька быў ваенным і напярэдадні вайны знаходзіўся ў Асіповічах на зборах. Валянцін гасціў у вёсцы Слабада пад Мінскам. На досвітку 24 чэрвеня ў двары паявіўся бацька з грузавой машынай. Бацька загадаў усім жанчынам з маленькімі дзецьмі хутка пагрузіцца ў машыну, каб выехаць з горада. Так мы з мамай і 6-месячным брацікам Лёней рушылі ў вёску Новы Двор. Усе спадзяваліся праз дзень-два вярнуцца дадому. Бацька са сваёй вайсковай часцю заставаўся ў Мінску. Таксама застаўся і Генадзь - дачакацца з вёскі Валянціна і потым дагнаць нас. Раніцай 26-га прыйшоў Генадзь: Валянціна не было. Недзе згубіўся паміж Слабадой і Мінскам. На паязды ўжо нікога не саджалі..

Мы пакінулі Новы Двор і рушылі на Магілёў, а потым да Шумяч, што пад Смаленскам. Тут вырашылі чакаць, пакуль адгоняць немца. Генадзь з раніцы да ночы ўсё сядзеў у ваенкамаце і, прыбавіўшы гадоў (дакументы ўсе засталіся ў Мінску), прасіўся на фронт. Нарэшце 12 ліпеня ён радасны прыбег да нас у чырвонаармейскай форме і сказаў, што едзе на заданне: шукаць у лесе нашага і нямецкага лётчыкаў, якія пасля бою пакінулі палаючыя самалёты. Больш Генадзя мы не бачылі... Нас у той жа час адвезлі ў Раслаўль да чыгункі. 16 ліпеня немцы занялі Смаленск... Напрыканцы жніўня мы дабраліся да Златауста (Чалябінская вобласць), на маміну радзіму. Тут нас чакалі два лісты ад Генадзя – бадзёрыя, з надзеяй на хуткае заканчэнне вайны і сустрэчу. Болей лістоў не было...



У студзені 44-га мы атрымалі паведамленне № 1347: мой брат Кісялёў Генадзь Васільевіч прапаў без вестак у кастрычніку 1941 года. Сёння мы ўжо ведаем, што 30 верасня пачалося генеральнае наступленне гітлераўскіх войск на Маскву. Генадзь быў менавіта на гэтым напрамку. За першую палову кастрычніка загінулі 1,5 млн. нашых байцоў і камандзіраў, 700 тыс. трапіла ў палон. Ніхто ў тым становішчы не падлічваў тых, хто быў раздаўлены танкамі Гудэрыяна, не фіксаваў, каго і колькі было разарвана бомбамі і снарадамі – усе пайшлі пад адзін радок – без вестак зніклыя.

Загад № 270 (16.08.41 г.) Сталіна патрабаваў лічыць усіх, хто папаў у акружэнне або ў палон, злоснымі дэзерцірамі і здраднікамі, знішчаць іх усімі сродкамі. На падставе гэтага загаду, а таксама Пастановы ГКО (16.07.41) прымаліся інструкцыі НКДБ і НКУС, якія давалі неабмежаванае права прыцягваць да уталоўнай адказнасці членаў сям'і ваеннапалонных. «У Чырвонай Арміі няма ваеннапалонных. Ёсць толькі здраднікі Радзімы» (І.Сталін).

Такія загады і пастановы перакрэслілі лёс і другога майго брата – Валянціна. Калі ён, нарэшце, дабраўся да Мінска, там ужо былі немцы. Тады ён пайшоў да роднага бацькавага брата – дзядзькі Сымона ў вёску Хлюпічы пад Мірам. Там здарылася свая трагедыя: за намер звязацца з партызанамі быў жорстка забіты сын дзядзькі – Валодзя. Пасля гэтага Валянцін пайшоў у лес да партызан помсціць за Валодзю. У 1945 годзе пасля вайны бацькі атрымалі даведку, што Валянцін быў у атрадзе імя Будзённага і загінуў. Бацькі нават ездзілі на брацкую магілу. А ў 46-м да дзядзькі Сымона прыйшоў ліст з укладзенай запіскай ад Валянціна...

Пра тое, што здарылася з Валянцінам я ўжо даведалася з архіўнай Асабістай справы № 30113, якую мне давялося пачытаць у КДБ РБ толькі ў ліпені 96-га. Брат у траўні 44-га, цяжка паранены трапіў у палон. З канцлагера, які быў у Аўстрыі, палонных вызвалялі англічане. На пытанне, куды хочаш ехаць, Валянцін адказаў: «На Радзіму». Гэта азначала лагер, але цяпер ужо на Радзіме... Так брат стаў забойшчыкам на шахце «Чалбанія» на Калыме. Тэрмін пакарання быў да 17 красавіка 1952 года.

Для бацькоў, ужо пахаваўшых сына, гэта было цяжкім ударам. Яны пісалі Сталіну і Молатаву, Калініну, ездзілі ў Маскву. У рэшце рэшт ім паабяцалі, што Валянцін прыедзе да іх на пабыўку . Наіўныя, яны паверылі! У красавіку 1951-га бацькі ў другі раз пахавалі свайго Валянціна: прыйшла тэлеграма ад таварыша па лагеру: «Валянцін загінуў». Лагернаму рэжыму лягчэй было забіць чалавека, чым адпусціць яго ў звычайны свет... У справе 30113 ёсць даведка № 201 (ад 28.04.51) аб прычыне смерці: «пулевое смертельное ранение сердца грудной клетки...»

Па першаму ж майму лісту брата Валянціна рэабілітавалі. Але бацькі пра гэта ўжо не даведаліся, яны рана пайшлі з жыцця...

Улюбёныя ў сваю Радзіму сыны былі гэтай Радзімай абражаны... За ўсе пасляваенныя 60 гадоў ніводнага добрага слова не было сказана пра мільёны тых, хто, абараняючы Маскву, не па сваёй віне загінуў у акружэнні, у палоне, хто прапаў без вестак...

**Ірына КІСЯЛЁВА**

Франчэска ПЕТРАРКА

# На жыццё Лауры



20 ліпеня гэтага года споўніцца 700 гадоў з дня нараджэння вялікага італьянскага паэта сярэднявечча Франчэска Петраркі. «Важна добра пражыць жыццё, і я надаваў мала значэння таму, як я выказваўся, – пісаў Петрарка, – бо марная слава, набытая адным бляскам слова». Але менавіта слова, слова паэтычнае, праславіла яго. Разам з Дантэ і Бакачыо ён заснаваў сучасную італьянскую мову і вызначыў шляхі развіцця ўсёй еўрапейскай паэзіі. Яго «Кніга песень» дагэтуль з'яўляецца ўзорам паэтычнасці і дасканаласці. Выношу на строгі суд чытачоў «Новага Часу» перастворанья мною санэты з гэтай кнігі.

Уладзімір СКАРЫНКІН

### I

О вы, хто ўмее ў вершах чуць асобны
Народжаны ў любоўнай скрусе ўздых,
Бо зведаў боль пачуццяў маладых
І помніць іхні смутак непадробны!

Той, у чыёй душы бой міжусобны
Адчаю і надзеі не аціх,
Прабачыць зменлівасць радкоў маіх
І не асудзіць іх за тон жалобны.

Прыносілі сардэчныя пакуты,
Змушаючы саромецца мяне,
Насмешкі з'едлівыя, злыя плёткі.

Мой сорам – плод маёй любоўнай смуты,
Прызнанне шчырае, што толькі ў сне
Я адчуваю шчасця міг кароткі.

### II

Каб здзейсніць элегантнейшую кару
І адплаціць за тысячу абраз,
Амур нацягвае ў чарговы раз
Свой лук – і мне не адхіліць удару.

Трывожыць стрэламі сваю ахвяру
Бязлітасны стралок працяглы час –
І, скарыстаўшы сіл сваіх запас,
Я святасцю абараніць мару.

Маланкамі і стрэламі прабіта
Маё слабое сэрца навылёт
Яшчэ пры першым наступе Амура.

Угору, дзе святло нябёс разліта,
Мой дух не змог ажыццявіць узлёт –
І я цяпер на ўсё гляджу панура.

### XLIV

Той, ад чыёй бязлітаснай рукі
Ў крыві Фесалія ўся патанула,
Заплакаў потым, бо яго кранула
Смерць мужа слаўнага сваёй дачкі.

Пастух, што камень запусціў цяжкі
У Галіафа, шкадаваў пачула
Сям'ю мяцежную, як і Саула,
Чым сам сябе праславіў на вякі.

А Вас не ўзрушыць нават спачуванне.
Дарэмна ў Вас Амур пускае стрэлы
І хоча, каб Ваш твар палагаднеў.

Вы бачыце, што я душой змярцвелы,
Ды бліскае, аднак, не шкадаванне
Заўсёды ў Вашым позірку, а гнеў.

### XLV

Вам унушыў каварны прыгнятальнік
Маіх пачуццяў і салодкіх мрой,
Нібы Вас прыгажосцю незямной
Адну так шчодра надзяліў Стваральнік.

І Ваш не меней шчыры шанавальнік,
Які дагэтуль Вамі жыў адной
І гэта не лічыў сваёй віной,
Асуджаны, як гідкі абражальнік.

Я ў ссылку з сэрца Вашага сагнаны.
Аслаблі ненадзейныя цвікі,
Якімі нас Каханне змацавала.

Нарцыс, у свой адбітак закаханы,
Раслінай стаў. Чакае лёс такі
Вас, улюбёную ў сваё зярцала.

### XLVI

Жамчужны бляск і пазалоту кветак
Зіма перапварае ў асцюкі,
Якія мне ўтыркаюцца ў бакі,
Не пакідаючы на целе метак.

Ды не таму мне сёння сумна гэтак,
Я цэлы дзень заплаканы такі,
Бо Вы не выпускаеце з рукі
Люстэрка, што разбэшчвае кабетак.

Для Вас вачэй сваіх адлюстраванне
Мілей за ўсё на свеце – і нямым
Таму зрабілася маё каханне,

Бо д'яблы ў пекле, дзе смурод і дым,
Люстэркі вырабляюць, каб спатканне
Маё наблізіць з замагіллем тым.

### XLVII

Агонь, запалены калісьці Вамі
Ў маёй душы, ужо ішоў на спад.
Жывых істот не змусіць нават кат
Пакорліва зрабіцца мерцвякамі.

І я амаль забытымі шляхамі,
Каханнем стомлены, пайшоў назад,
Хаця заўсёды быў бясконца рад
Адлюстравацца Вашымі вачамі.

Ды зноў мяне дарогі прывялі
Да Вас – і ў Вашы вочы зазіраю
Я, баючыся надакучыць Вам.

Я пажыву яшчэ крыху, калі
Дазволяць Вашы вочы, – і сканаю,
Уласным патакаючы вачам.

### LXXXI

Злачынныя прывычкі і грахі
Мяне прыгнечваюць – і я баюся,
Што неўзабаве ў пекле апынуся,
Бо д'ябал вызначыў мае шляхі.

Да слоў Збавіцеля я быў глухі,
Калі Ён да мяне прыйшоў, і ў скрусе,
Знясілены і грэшны, валакуся
Цяпер да ракавой сваёй вяхі.

Ды голас Божы з вышыні я чую:
«Я ўсім вам пакажу дарогу тую,
Якая прывядзе ў храм светлы мой».

Што дасць мне крылы голуба – Каханне,
Дабразычлівы лёс ці пакаянне,
Каб я ўзляцеў і там знайшоў спакой?

### LXXXII

Я Вас не разлюблю, бо Вас адну
Мая душа абагаўляць хацела.
Калі ж мне часам слёзы ліць карцела,
Дык я за гэта сам сябе кляну.

Таму, калі я вечным сном засну –
І закаханы дух пакіне цела,
Хачу, каб Вашым імем палымнела
Пліта, што будзе накрываць труну.

Памру я з марай аб нязбытным шчасці.
Ды каб змянілі Вы на міласць гнеў,
Я пастараўся смерць сваю б адкласці.

А каб Ваш мілы твар палагаднеў,
Не стаў бы я сябе заўзята клясці –
І ў сэрцы б зноў агонь запалымнеў.

### LXXXIII

Пакуль не пабялелі скроні дзве,
Мяне ўжо не пакіне прадчуванне,
Нібыта ў хуткім часе зноў Каханне
Мяне на паядынак пазаве.

Але не знішчыць і не разарве
Ужо мяне стралок, што паляванне
Вядзе, забыўшыся на шкадаванне,
Як волю дасць страле і цеціве.

Не лінуць слёзы ўжо з маіх вачэй,
Хоць добра ведаюць яны дарогі
І не баяцца надта забарон.

Ніякія сумненні і трывогі,
Хоць сэрца грукатаць пачне грамчэй,
Не перапыняць, як раней, мой сон.

### LXXXVIII

Я жыў дасюль надзеямі, нібы
Мне лёсам вечна жыць наканавана,
І шмат гадоў лічыў, што покуль рана
Ўцякаць ад Той, кім звабіцца любы.

Нарэшце, я – кульгавы і слабы –
Бягу ад страсці ўласнай апантана,
Хоць кроватачыць, як скразная рана,
Мае пачуцці ўсе – яе рабы.

Але ўсё роўна тым, хто не любіў,
Кажу я: «Крочце да Кахання смела
І не ўцякайце ад спякоты злой,

Як горача б яна ні палымнела.
Мой вораг, хоць і вельмі моцны быў,
Паранены Амуравай стралой!»

### LXXXIX

Мадонны! Я калісьці збег з астрога,
Дзе быў Кахання вязнем шмат гадоў,
Ды прывяла да той турмы ізноў
Мяне праз некаторы час дарога.

Сказала сэрца: «Ты пражыць, нябога,
Не зможаш без любоўных кайданоў» –
І я паверыў. А цяпер гатоў
Рваць зноўку звёны ланцуга цяжкога.

Я зненавідзеў страсці кайданы,
Любоўныя вярыгі і калодкі –
І радасці без волі не ўяўляю,

Бо зразумеў, што не такі салодкі
Наш лёс, калі душу гнятуць яны, –
І з цяжкасцю памылку выпраўляю.

### XC

Яе пагляд быў стомлены і цьмяны,
А пасмы залацістых валасоў,
Зацягнутых у тысячу вузлоў,
Былі вакол плячэй параскіданы.

А твар Яе меў колер найрахманы,
Як быццам некальки спагадных слоў
Ёй мне сказаць хацелася. І зноў
Быў я ў Яе бясконца закаханы.

Ужо Яна не птушка трапяткая,
Ды голасам пяшчотным, незямным
Маю душу, як спеў анёльскі, грэе.

І даў бы рады ранам я сваім,
Калі б не ведаў, што Яна зямная,
І каб не бачыў, што Яна старэе.

### XCI

З красуняю, якую ты кахаў,
Мы назаўжды расталіся дачасна.
І дзе яна цяпер, напэўна, ясна
Усім, хто гэтую жанчыну знаў.

Яна зрабіла многа добрых спраў –
І будзе ў небе палымнець нязгасна.
Пара настала памаліцца страсна,
Каб да яе Гасподзь цябе забраў.

Але спярша ў сабе ключы, якімі
Яна валодала, знайдзі, а потым
Скінь ношы цяжкія з сябе хутчэй

І ўрэшце зразумей, што ўсе істоты
Бягуць да смерці, і расстанне з імі,
Як і з жыццём, перанясеш лягчэй.

### XCVII

О вабны і прыгожы прывід волі!
З табой душа шчасліваю была.
Але мяне параніла страла –
І мне не ачуняць ужо ніколі.

У сэрцы хворым не сціхаюць болі,
А вочы непагадзь завалакла.
Жывы я ці згарэў ужо датла,
Цяпер ніякай не іграе ролі.

Нікога я не чую, акрамя
Знаёмых, што пра смерць маю гавораць.
Мне лашчыць слых адной Яе імя.

Другіх жанчын не пакахаю я,
Бо ногі самі да Яе шлях тораць,
І піша пра Яе рука мая.

### CX

Мяне Амур штурхаў уладна ў плечы –
І я пакорліва ішоў туды,
Дзе цеплішца знаёмыя сляды,
Як воін, што рыхтуецца да сечы.

І раптам цень найпрыгажэйшы нечы
Я ўбачыў краем вока ў час хады.
Умомант абярнуўся я тады –
І шчасцем засвяціўся па-хлапечы.

Ярчэй ад бліскавіцы і хутчэй
Ад думкі смелай і ад дзёрзкай мары
Заззялі зрэнкі дарагіх вачэй –

І раздаліся грамавыя ўдары.
«Ты што сумеўся?» – грымнула грамчэй
Ад перуна, што скалануў абшары.

### CXI

Я радасна і ўзрушана сустрэў
Ізноў спадарыню майго настрою,
Чыё чало беспераспанку мрою,
Але сумеўся і зніякавеў.

Каб Зеўс усемагутны шчасце меў
Сустрэцца з прыгажуняю такою,
Ён з рук магутных выраніў бы зброю
І нечакана свой змякчыў бы гнеў.

Мне спачувальна зазірнуўшы ў вочы,
Яна сказала штосьці на хаду –
І сціхлі ў сэрцы ўсе мае пакуты.

Я з добрымі пачуццямі ў ладу
Цяпер жыву ад раніцы да ночы,
Яе вітаннем ветлівым кранугы.

### CXXXVI

Калісьці пазбягала ўсіх спакус ты,
Была жадна глытку рачной вады,
З задавальненнем ела жалуды,
А зараз ты багач – і злы, і тлусты.

Рассаднікам бязбожжа і распусты
Зрабіўся ў нашы дні бядняк худы.
Цяпер ён раб пасцелі і яды,
Дзе правяць здрады і дурныя густы.

Ты аддаешся плоцевым уцехам
У дарагіх палатах, у якіх
Стаіць з паходняй Везельвул і мехам

Ганяее бруднае паветра ў іх.
І абурэнне Бога гучным рэхам
Аднойчы грымне ў далях незямных!

### CLXXXI

З бліскучых перлаў, з яркай пазалоты
І з непаўторнай прыгажосці там,
Дзе дорыць радасць лаўр маім вачам,
Амур пляце ў траве свае цянёты.

Мяне ён звабіў шэлестам лістоты,
І тым насеннем, што калісь Адам
На смак пакаштаваў, на гора нам,
І музыкаю, поўнаю пяшчоты.

Мадонна можа ўсё спаліць наўкола,
Ды ў пастку трапіла Яе рука
І змусіла мяне ў цянёты ўпасці.

І спальваюць мяне, як юнака,
Па волі жартаўлівага анёла
Ізноў жаданні, спадзяванні, страсці.

 



# Вильня. 1794

## *Некоторые страницы из мемуаров генерал-лейтенанта С.А.Тучкова*

**Аўтар гэтых успамінаў – Сяргей Аляксеевіч Тучкоў – мае дачыненні да дзвюх значных падзеяў беларускай гісторыі. У 1794 годзе ў часе паўстання ён аказаўся адзіным расійскім афіцэрам у Вільні, які здолеў арганізаваць супраціў паўстанцам, выратаваў рэшткі віленскага расійскага атрада, бамбаваў горад. Ягонае апісанне баёў, якія адбываліся на вуліцах горада і па-за ім, дазваляюць убачыць падзеі вачыма расійцаў. Варта звярнуць увагу, што ва ўяўленні Тучкова і Вільня, і паўстанцы – гэта Польшча, палякі. У 1812 годзе, калі расійскія войскі сцягваліся пад Барысаў, С.А.Тучкоў правёў рэквізыцыю ў Нясвіжскім замку скарбаў князя Дамініка Радзівіла, які ваяваў на баку Напалеона.**

Во время пребывания моего въ Вильне получено было известие о несчастной кончине Людвига XVI, короля французскаго. Это произвело великую радость въ полякахъ: тотчасъ появились новыя моды, какъ-то фраки а ла Дюмурие, трости съ булавками или шпильками, называемыя гильотинами, или деревянными набалдашниками, отделанными съ одной стороны видомъ мужскаго, а съ другой женскага лица, подъ названиемъ голова короля и королевы, рулетка и тому подобныя мелочи. Но все сии безделицы предзнаменовали революцию.

Въ 1794 году начало оказываться въ Вильне довольно приметное неспокойствие въ народе; а въ Варшаве еще больше. Удивительно, что начальство российское не могло проникнуть въ ихъ заговоръ. Некоторые осмеливаются утверждать, якобы то была политика Екатерины II-й, чтобъ допустить поляковъ истребить въ ночное время корпусъ войска российскаго, въ Польшъ расположенный, дабы иметь предлогъ къ окончательному разделению Польши и совершенному уничтожению сего государства.

Въ Варшаве надъ всеми, находившимися тогда въ Польше российскими войсками начальствовалъ генералъ баронъ Игельстромъ, образованный воспитаниемъ и опытностью, но не въ мъру строгий, гордый и самолюбивый человъкъ. О революции варшавской не намеренъ я ничего говорить, потому что я тамъ не былъ, такъ и потому, что оная многими уже была описана.

Въ Вильне, гдъ я тогда находился, начальствовалъ отрядомъ войскъ генералъ-майор Арсеньевъ. Хотя я его зналъ довольно, но могу сказать, что онъ не имелъ ничего особеннаго въ своемъ характере; бывъ изрядно воспитанъ и, служа довольно, руководствовался онъ больше предписаниями главнаго начальства, нежели осмеливался самъ на что либо решиться.

Въ концъ 1793-го года находилось въ Вильне пять артиллерийскихъ ротъ, которыми начальствовалъ полковникъ артиллерии Челищевъ. Но вскоре оне потомъ разосланы были по разнымъ местамъ, и остались только въ Вильнъ полторы роты при 15 пушкахъ. Весь же отрядъ генерала Арсеньева состоялъ изъ двухъ пехотныхъ, одного батальона егерей и одного казацкого полка. Они расположены были по деревнямъ въ окрестности города, въ который по очереди приходило по одному батальону для содержания карауловъ и по нескольку десятковъ казаковъ для конвоя генерала и разъездовъ. Артиллеристы же расположены были все въ городъ; а орудия передъ самымъ городомъ такъ же, какъ и конюшни для ихъ лошадей.

Въ начале 1794 года нашъ полковникъ Челищевъ произведенъ былъ генералъ-майоромъ и отправился къ назначению своему въ Киевъ. Я принялъ вместо него начальство надъ артиллериею, оставшейся въ Вильне, и расположился на его квартире въ предместии, примыкающемъ къ самымъ стенамъ города.

Пронырливые жиды не переставали тайно извещать некоторыхъ чиновниковъ, въ томъ числе и меня, что между поляками делается заговоръ, который можетъ иметь худыя последствия для русскихъ.

Собравъ достаточныя о семъ сведения, решился я доложить о том генералу и предложить, не прикажетъ ли онъ для безопасности вывести войско и расположить въ лагерь подъ Вильной, темъ больше, что наступилъ уже мартъ месяцъ, и весна была довольно теплая. Но онъ обезоружилъ меня следующимъ ответомъ. «Не стыдно ли вамъ верить больше жидамъ, нежели мне, которому все обстоятельства больше известны; при томъ выходить въ лагерь въ сие время здесь не безопасно въ отношении здоровья солдатъ, погода весьма можетъ перемениться».

Въ один день довольно рано выйдя по утру изъ своей квартиры для прогулки, я приметилъ, что на всехъ домахъ, гдъ квартировали русские, написаны были на стенахъ краснымъ карандашомъ сии буквы R.Z. Не трудно было догадаться, зная по-польски, какое слово изъ оныхъ составлено быть можетъ. Rz. – rzezac по-польски; а по-русски резать. Я пошелъ тотчасъ къ генералу и доложилъ о томъ, что виделъ. На сие сказалъ онъ мне: «Разве вы не знаете поляковъ! какой-нибудь пьяный повеса написалъ ночью эти буквы, думая насъ темъ обезпокоить. Впрочемъ, если-бы и подлинно что было, то зачемъ писать на стенахъ? Не значитъ ли это уведомлять неприятелей своихъ?» И онъ велелъ тотчасъ полиции стереть оныя. Но я, возвратясь домой, принялъ меры осторожности, велелъ моимъ солдатамъ ночевать не по одиночке на отведенныхъ имъ квартирахъ, а въ сборныхъ домахъ по 20 и 30 человекъ вместъ. При всякомъ такомъ сборномъ местъ былъ часовой и слушалъ барабаннаго бою въ моей квартиръ, по которому все капральства, не дожидаясь никакого приказания, бежали бы въ паркъ. А тамъ приказалъ, чтобъ при всехъ пушкахъ ночью горели фитили въ ночникахъ.

Осторожность сия продолжалась сутокъ трое, какъ однажды ночью русский плацъ-майор города Вильны, приехавъ въ паркъ, велелъ загасить фитили. Я пошелъ опять къ генералу и доложилъ ему, что г. плацъ-майоръ, по мнению моему, мешается не въ свое дъло. Начальство военной его полиции не простирается за городъ, гдъ стояли мои пушки. На это генералъ отвечалъ мне: «Кто позволилъ вамъ истреблять такимъ образомъ фитили? Я велю ихъ положить на вашъ счетъ». «Это меня не разоритъ», отвечалъ я ему, и съ темъ выйдя, подтвердилъ втайне прежния мои приказания относительно осторожности въ ночное время. Занимаемая мною квартира была для меня слишкомъ обширна, а потому и пригласилъ я моихъ офицеровъ жить со мной вместе, имея общий столъ. Въ одинъ день, именно 8-го апреля, поручикъ мой сказалъ мне по вечеру, что онъ пойдетъ посетить казацкаго полковника Киреева. Я спросилъ его: «Не будете-ли вы тамъ ужинать? Не заставьте насъ ожидать себя». Тотъ отвечалъ мне: «Я иду къ нему только на короткое время». Но вместо того, пришелъ онъ домой уже на другой день поутру, вошелъ въ мою комнату тогда, когда я одевался, причемъ было несколько нашихъ офицеровъ и постороннихъ людей. Я пошутилъ на счетъ его, какъ молодого человека, живущаго въ Польше. Но онъ казался мне несколько задумчивъ и потихоньку давалъ знаки, что хочетъ говорить со мною наедине. Окончивъ одъваться, вышелъ я съ нимъ въ садъ. Тамъ онъ сказалъ мне: «Что это делаютъ? и для чего не приказываетъ высшее начальство быть намъ осторожными? Вчера, когда я былъ у полковника Киреева, приехалъ къ нему адъютантъ генерала Арсеньева и отдалъ какую-то записку. Прочитавъ ее про себя, онъ сказалъ посланному: «Доложите генералу, что все будетъ исполнено». – Лишь только адъютантъ вышелъ отъ него, то сказал онъ мнъ:

«Я получилъ повеление, чтобы какъ можно наискорее, собравъ сколько можно больше казаковъ, немедленно отправиться въ имение генерала Косаковскаго, где онъ съ женою своей теперь находится. Оно отстоитъ въ трехъ миляхъ отсюда. Причиною же тому есть то, что конфедераты намерены напасть на него... Я мало имъю при себъ казаковъ и потому долженъ взять съ собою всю мою услугу до последняго человъка (известно, что услуга казацкихъ чиновниковъ состоитъ всегда изъ лучшихъ казаковъ). И такъ прошу васъ сдълать мнъ дружеское одолжение, - остаться ночевать въ моей квартире; а завтра рано надеюсь я возвратиться». И подлинно поутру въ 7 часовъ былъ онъ дома и сказалъ мнъ: «Я понапрасну ездилъ, конфедераты еще до прибытия моего успели захватить и увезти съ собой жену генерала и сжечь его домъ. Онъ же, какъ говорятъ, ускакалъ верхомъ въ лесъ въ одномъ шлафроке, и неизвестно гдъ теперь находится». Выслушавъ сие, поспешилъ я къ нашему генералу для получения отъ него потребныхъ наставлений при таковыхъ обстоятельствахъ. Войдя въ переднюю, нашелъ я въ оной многихъ нашихъ военныхъ чиновниковъ, въ томъ числе полковника Киреева. И едва успелъ я осмотреться, какъ подъехала къ крыльцу карета. Я взглянулъ въ окно, и къ удивлению моему, увиделъ выходящаго изъ оной генерала Косаковского въ русскомъ мундире и въ орденахъ всехъ государствъ. Онъ прошелъ мимо насъ прямо въ кабинетъ генерала, – а мы остались въ передней и дожидались больше двухъ часовъ. Наконецъ показались изъ дверей Косаковскиий и генералъ Арсеньевъ, который, проводя его до крыльца и возвратясь къ намъ, сказалъ: «Души нетъ, души нетъ у поляковъ. Будьте спокойны, все это ничего не значитъ. Это малая толпа неприятелей Косаковскаго; меры взяты и скоро все придетъ въ порядокъ». Съ сими словами удалился онъ въ кабинетъ, а мы разошлись по домамъ.

Уже приближалось 11 число апрьля 1794 года, день, въ который греческая церковь должна была праздновать Воскресение Христово. По обрядамъ этой церкви все христиане сего исповедания ночью собираются въ храме, гдъ продолжается богослужение до самаго дня. Сие обыкновение и въ войскахъ наблюдается непременно. Между темъ разнесся тайный слухъ, якобы поляки намерены въ сие время сделать на насъ нападение. Но и тутъ со стороны нашей не было взято никакихъ меръ осторожности. Однако же, къ счастию, случилось такъ, что и поляки должны были находиться въ сие время въ своихъ церквахъ. Хотя поляки следуютъ новому, а русские старому календарю, но поелику время праздника сего переменяется, такъ какъ считается оное по лунному обращению, то и пришлось въ этотъ годъ такъ, что греческая и римская церковь должны были праздновать этотъ праздникъ в одинъ и тотъ же день, что весьма редко бываетъ.

На другой день, то есть 12 апреля, поехалъ я после обеда съ офицерами моими для прогулки въ Антоколь. Проезжая мимо тамошняго трактира, увиделъ я экипаж генерала Арсеньева. Мы пошли въ рощу, окружающую церковь, тамъ мы увидели множество прогуливающихся особъ обоего пола. Между прочими одинъ мало мне знакомый и какъ видно нескромный человъкъ, офицеръ польский, присталъ ко мне съ разговорами. «Знаете ли вы новость? – сказалъ онъ мне. – Здъсь говорятъ о революции; но может ли это быть? Вы, я думаю, слышали, что случилось съ Косаковскимъ... все это ничего не значитъ. Правда, и здесь въ Вильне есть довольно безпокойныхъ людей; но мы ожидаемъ прибытия преданного гетману нашему Косаковскому 7-го польскаго пехотнаго полка, въ которомъ и я имъю честь служить. Посмотрите, какъ все переменится». Такой разговоръ въ собрании поляковъ, въ коемъ находилось со мною только нъсколько человъкъ, показался мне неуместнымъ, и я съ товарищами моими удалился въ трактиръ, где нашелъ генерала Арсеньева, занимающагося разговоромъ съ дамами. Увидя меня, предложилъ онъ мне партию на биллиарде. Едва занялся я съ нимъ этой игрой, какъ приметилъ онъ человъка въ артиллерийскомъ мундире, выглядывающаго изъ-за дверей. Тутъ сказалъ онъ мнъ: «Мне кажется, что кто-то желаетъ говорить съ вами». Я оглянулся и узналъ моего фельдфебеля. Когда жъ вышелъ я къ нему, то сказалъ онъ мне: «Наши бомбардиры поссорились съ польскими канонирами и сделали драку.

Працяг на стар.10





 

# Сібірскі праект

Люба Парнюк праехала на снегаходзе тысячы кіламетраў па прамерзлых балотах, каб пачуць спевы сталага веку жанчыны. 71-гадовая Лізавета Сігілетава – адна з апошніх носьбітак рэдкага дыялекту хантаў, які амаль згінуў пад ціскам рускай мовы. Паколькі ўжо са школьных гадоў яе прымушалі размаўляць па-руску, бабуля Лізавета мала памятае сваю родную мову. Але нарэшце яна ўзгадвае некалькі радкоў:

«Анкел ваджах кімлен семкан латэн па кіць каскін нінет»

«Філін з сумным позіркам пяе, што ўсе мужчыны і жанчыны памерлі»

Для 22-гадовай аспіранткі гэта ўдача. Дзеля даследавання малавядомых моваў да таго часу, як яны знікнуць, яна гатова цярпець завеі і паездкі ў глухія куткі тайгі. Люба Парнюк і ейныя калегі з Томскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта змагаюцца з наступствамі глабалізацыі. Яны лічаць, што дзве траціны моваў свету (а зараз іх налічваюць каля 6.500) знікнуць ужо ў гэтым стагоддзі ў выніку выбуховай глабалізацыі эканомікі і культуры, а таксама распаўсюджання некалькіх дамінуючых моваў.

Лясы Сібіры, якія былі своеасаблівым раскрыжаваннем міграцыйных патокаў яшчэ з Каменнага веку, поўніліся песнямі і легендамі саамаў, карэлаў, венаў, меры і тузіна іншых плямёнаў. Дзякуючы аддаленасці ад шчыльнанаселеных рэгіёнаў яны здолелі пранесці сваю культурную самабытнасць скрозь стагоддзі. У выніку русіфікацыі Сібіры ў апошнія 50 гадоў болей за 30 моўных групаў знаходзяцца на мяжы знікнення. Сёння дажывае свой век апошняе пакаленне носьбітаў гэтых моваў.

Для мноства прыбылых людзей, і нават для некаторых карэнных сібіракоў, спроба захаваць мясцовыя мовы здаецца бескарысным марнаваннем часу. Аднак, сцвярджаюць лінгвісты, са стратай кожнай мовы чалавецтва страчвае тысячагадовы унікальны вопыт у галіне культуры, рэлігіі, медыцыны.

У часе сваёй даследніцкай паездкі Люба Парнюк наведала тры далёкія вёскі на беразе ракі Обь, якая некалі карміла тысячы хантаў. Народ хантаў мае далёкія сваяцкія сувязі з фінамі, эстонцамі, балгарамі, якія перасяліліся з Сібіры некалькі тысяч гадоў таму. У 18-ым стагоддзі сюды прыйшлі рускія прапаведваць хрысціянства. Потым адбылася рэвалюцыя, якая прынесла значныя змены. Апантаныя ідэяй абарачэння сотняў нацыянальных меншасцяў у савецкае грамадзянства, бальшавікі загналі хантыйскіх дзяцей у школы-інтэрнаты, а дарослых – у калгасы, дзе яны былі абавязаныя размаўляць па-руску. Калі ў 1960 годзе ў Сібіры была знойдзена нафта, на зямлю хантаў наехалі мільёны рускамоўных нафтавікоў і будаўнікоў.

Дэмаралізаваная бальшыня хантаў прыняла рускі чын жыцця, іншыя ж загразлі ў алкагалізме. «Рускія дасюль гавораць нам, што мы былі непісьменныя, не маглі ні чытаць, ні пісаць. Ну добра, яны прынеслі культуру і адукацыю, але пры гэтым яны знішчылі наш лад жыцця», – гаворыць Клаўдзія Дземко, хантыйская актывістка, якая дапамагае Л.Парнюк у паездках.

У 1950-х гадах знакаміты савецкі лінгвіст Андрэй Дулзон пачаў старанна вывучаць мясцовыя мовы. Для гэтага ён вандраваў па самых далёкіх паселішчах хантаў. Сёння, скарыстоўваючы слоўнікавыя карткі Дулзона, аспіранты Томскага універсітэта складаюць слоўнікі, пішуць дзіцячыя азбукі і рыхтуюць выкладчыкаў мясцовых моваў для вясковых школак. Як толькі з'яўляецца магчымасць, яны выязджаюць у экспедыцыі. Спадарыня Парнюк сама аплочвала выдаткі, звязаныя з яе апошняй экспедыцыяй. Ёй гэта каштавала 250 даляраў. Яна знайшла трох хантаў, захаваўшых мясцовы дыялект. Яны дапамаглі ёй адкарэктаваць чарнавы варыянт слоўніка мовы хантаў і распавялі некалькі новых легенд.

Томскія лінгвісты спадзяюцца закончыць працу над слоўнікам хантыйскай мовы да 2008 года. Клаўдзія Дземко прапануе збіраць грошы ў мясцовых хантаў для фінансавання працы. «Мы ўсе спадзяемся на Любу», – гаворыць яна, але пры гэтым адзначае, што маладыя ханты, як яе пляменнік, праграміст па прафесіі, болей зацікаўленыя ў вывучэнні англійскай мовы.

Спадарыня Парнюк, якая ўжо валодае хантыйскай мовай лепей за сваіх інфармантаў, праастадушна спадзяецца, што яе праца будзе садзейнічаць аднаўленню культуры хантаў. Ханты маюць вялікую веру ў аднаўленне, гаворыць яна. Калі яны хаваюць каго-небудзь, яны кладуць у магілу разбітыя рэчы. Яны думаюць, што ў наступным жыцці ўсе разбітыя рэчы адновяцца.

**Джын УОЛЕН**
*The Wall Street Journal*

# Мой сябра - дыктатар Абашыдзе

Я стаяў у чарзе на пасадку на самалёт з ужо спакаванымі рэчамі, пасля таго як прачакаў інтэрв'ю з эксцэнтрычным лідэрам Аджарыі два дні і вырашыў, што гэтага з мяне хопіць. У гэты момант мяне паклікаў ахоўнік – лідэр аджарскай аўтаноміі знайшоў нарэшце час для сустрэчы.

Я мусіў вярнуцца ў Батумі, сталіцу Аджарыі, і чакаць у рэстаране «Марсель» на беразе мороа. На маё пытанне, што будзе з маім багажом (ён быў ужо ў самалёце) і пашпартам (мне ўжо паставілі візу), мне адказалі: «Самалёт пачакае».

Затрымаць вылет для пана Абашыдзе, які з 1991 года кіруе Аджарыяй як уласным маленькім каралеўствам, нічога не каштуе. Мяне засунулі ў машыну, і мы панесліся па ўхабістых вуліцах назад у цэнтр горадапорта, заснаванага Людвігам Нобелем у 1883 годзе для транспарціроўкі азербайджанскай нафты на Захад. У рэстаране «Марсель» мяне ўжо чакалі памочнікі Абашыдзе, некалькі расійскіх журналістаў і традыцыйнае грузінскае меню: люля-кебаб, баклажаны з грэцкімі арэхамі, брынза і маладое віно. Калі прынеслі каву, прыйшла вестка, што пан Абашыдзе нас прыме.

У яго рэзідэнцыі, сапраўдным палацы з чырвонага граніту з люстраным шклом на цэнтральнай плошчы, нас сустрэў легіён ахові. Ствараецца ўражанне, што Абашыдзе проста купаецца ў грошах, у той час як бальшыня яго падданых жывуць у глыбокай галечы.

Мы рыхтаваліся да сустрэчы з Абашыдзе ў прысутнасці паўтузіна ўзброеных людзей. На двары былі прыпаркаваны два «Хамеры». Нам забаранілі карыстацца дыктафонамі і камерамі – пасля дзесяці замахаў Абашыдзе не хоча рызыкаваць. Нас правялі па мармуравых сходах у залю з паркетам, крыштальнымі падсвечнікамі і залатымі карнізамі. У задняй сцяны быў усталяваны вялізны плоскі тэлеэкран, а ў цэнтры кругам стаялі белыя скураныя крэслы.



І вось ён – усе пяць футаў чатыры дзюймы (160 см) без рэшты, у бездакорным чорным гарнітуры, белай кашулі і серабрыстым гальштуку. Прапанаваўшы нам па шклянцы віна, ён пачаў гаварыць пра тое, колькі ўплывовых сяброў даслалі яму тэлеграмы аб падтрымцы.

Што і казаць, уплывовыя сябры ў яго ёсць. Маскоўскі мэр Юры Лужкоў прылятаў у Батумі ў самы пік крызісу, каб выказаць яму сваю падтрымку, пасярэднікам выклікаўся быць і Ян Бондэ Нільсен, дацкі магнат, які купіў у 1980-х гадах стадыён Уэмблі (цэнтральны стадыён Лондана) і які з'яўляецца ўладальнікам батумскага нафтавага тэрміналу. У 1998 годзе брат Хілары Клінтан Х`ю падпісаў з Абашыдзе здзелку на закупку ў Аджарыі фундуку на 118 мільёнаў даляраў, але Белы дом гэтую аперацыю задушыў.

Аджарскі лідэр пачаў расказваць аб суднабудаўнічай прамысловасці ў Батумі. Запаліўся экран ў канцы залі, і з дынамікаў палілася бадзёрая музыка. Гэта быў рэкламны кліп «Тарнада-1», катэра са станкавым кулямётам на палубе і кактэйль-барам з белай скуры пад ёй.

– У свеце толькі адзін такі, – ганарыста сказаў Абашыдзе,– а дызайн інтэр'еру я рабіў сам. У мяне атрымліваецца.

Наступным нумарам мы ўбачылі «Чорную Акулу», чорную штурмавую маторку.

– Ці можна ім гэта паказваць? – заклапочана запытаў яго памочнік.

– Канечна! – адказаў Абашыдзе.

Ён ні хвіліны не сумняваецца, што менавіта ў яго, нашчадка дынастыі Бегаў, якія ўпраўлялі Аджарыяй, калі яна была часткай Атаманскай імперыі, з 1463 па 1878 год, ёсць усе правы на тое, каб валадарыць гэтымі чатырмястамі тысячамі людзей. Але ягоныя планы ідуць значна далей. Ён ужо ладзіў у Аджарыі тэнісныя турніры, на якія запрашаліся лепшыя ігракі свету, дзяржаўны тэлеканал Аджарыі вядзе перадачы на шасці мовах на ўсю Еўропу, Цэнтральную Азію і Паўночную Афрыку. Яго імя далі нават адной новаадкрытай зорцы. Але, па яго словах, болей за ўсё ён любіць оперу. Абашыдзе спансіруе першую ў свеце дзіцячую групу оперных спеваў, у вялізным оперным тэатры ў цэнтры горада праходзяць рэгулярныя фестывалі. «Люблю «Атэла», але Вердзі мне бліжэй», – сказаў ён.

Я хацеў запытаць чаму, але час аўдыенцыі скончыўся.

Нас хутка адвезлі назад у аэрапорт, дзе наш рэйс затрымалі на пяць гадзін.

У самалёце мы знайшлі на сваіх крэслах чатыры бутэлькі грузінскага віна. На этыкетках было напісана проста: «З вінных склепаў Аслана Абашыдзе. Толькі для сяброў».

**Джэрэмі ПЕЙДЖ**
*The Times*

## Уладзімір Жырыноўскі: Ад Латвіі застанецца пустое месца



Парламентарыі трох краінаў Балтыі, якія ўваходзяць у Балтыйскую асамблею, па прапанове дэлегацыі Латвіі маюць намер выступіць з сумеснай афіцыйнай заявай. У ёй яны асудзяць выказванні віцэ-спікера Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Жырыноўскага, які паабяцаў учыніць тэрарыстычныя акцыі на тэрыторыі Латвіі.

Прэзідэнт Латвіі Вайра Віке-Фрэйберга шакаваная выказваннямі Уладзіміра Жырыноўскага, у якіх ён адкрыта пагражаў краіне тэрорам. «Гэта было шокавае відовішча - як пан Жырыноўскі ўвечары заявіў аб намеры знішчыць латышоў. Праз 55 гадоў пасля падзеяў 25 сакавіка (дата адной з дэпартацыяў жыхароў Латвіі) дэмакратычна абранай асобе выступаць з гэтакімі заявамі недапушчальна. Гэта даказвае, што Латвію чакае вялікая праца, каб распавесці свету пра тое, што з ёй адбылося», - сказала прэзідэнт.

У інтэрв'ю латвійскаму тэлеканалу LTV Жырыноўскі, ацэньваючы ўступленне Латвіі ў НАТО і рэформу адукацыі, заявіў наступнае: «Ад Латвіі нічога не застанецца. Разам з рускімі. Пустое месца. Я вам гэта абяцаю. Наогул нічога не застанецца. Імя Латвіі і латышскую мову ўсе забудуць. Нічога не будзе. Улічыце. Знойдуцца героі, дэсантнікі і людзі. Мы ўсё знішчым, калі вы возьмецеся за рускіх і рускія школы. Я вам гэта абяцаю. Ёсць і грошы, і людзі. Смяротнікі ёсць. Нічога не застанецца».

## Ліквідацыя шэйха



«Ён тут!» – прашаптаў ноччу інфарматар па выхадзе з мячэці. Два слова, якія сталі сігналам да пачатку аперацыі па ліквідацыі Ясіна. Заставалася толькі адна праблема: цішыня ў гэты ранішні час і адсутнасць руху на вуліцах. Але праблему цішыні, якую мог парушыць нечаканы шум, удалося вырашыць: у начным небе Газы пачуўся грозны гул F-16. Гукавое прыкрыццё. З'яўленне Apache – верталётаў-кілераў – над мэтай атакі ніхто не прыкмеціў.

Для сачэння за адрасатам выкарыстоўваюцца беспілотныя самалёты з тэлекамерамі, якія перадаюць інфармацыю. Адрасат бярэцца на прыцэл, і ў яго не застаецца ніякага шанцу выжыць. Найбольш часта ўжываюцца ракеты Hellfire амерыканскай вытворчасці, удасканаленыя ў Ізраілі. Асколкі гэтых ракет былі знойдзены два гады назад у Тубасе, калі на невялікай віле былі ліквідаваныя сем кіраўнікоў тэракту. Па словах відавочцаў, дакладнасць стрэлаў уражвала: ад дома нічога не засталося, логава «Хамас» было ліквідавана з хірургічнай акуратнасцю.

Ёсць і іншыя варыянты, прыкладам – упырснуць яд у вуха ахвяры, як гэта было ў 1997 годзе ў Амане: два ізраільскія агенты паспрабавалі правесці падобную аперацыю адносна Халеда Машаля, і ўрад быў вымушаны вызваліць менавіта Ясіна пад ціскам караля Іарданіі, каб пазбегнуць дыпламатычнага крызісу.

Часам распрацоўваюцца вельмі змрочныя сцэнары: таго, хто паслаў на тэракт «маці-камікадзэ», знішчылі пры дапамозе мадэлі Залатой мечэці Іерусаліма, начыненай пласцітам. Іншы ісламіст атрымаў ад «сяброў «Хамас» радыёкіруемую мадэль самалёта, гэтакую цацку, якая разнесла яго самога і яго дом.

«Шын Бет» і ваенная разведка рыхтавала замах на Ясіна некалькі месяцаў. У жніўні Шарон сказаў, што настаў час прывесці ў дзеянне «сістэму Голды Меір»: пачаць паляванне на кіраўнікоў, членаў і памагатых «Хамас» па мадэлі загадкавага «Камітэта Х», які пасля Алімпіяды ў Мюнхене 1972 года, дзе былі забітыя 17 ізраільскіх спартсменаў, на загад жалезнай ледзі-прэм'ера высачыў і знішчыў (на працягу 19 год) усіх удзельнікаў гэтага злачынства.

На працягу месяцаў за шэйхам хадзілі па пятах, каб даведацца пра яго сховішчы, звычкі, шляхі і метады адыходу. Інфарматарам былі выдадзены нават прыборы лазернага навядзення для акрэслення месца, дзе звычайна бываў шэйх. Нарэшце, дасье было пададзена міністру абароны, Шарону, кабінету бяспекі. План абмяркоўваўся, карэктаваўся і быў зацверджаны.

Як толькі было дадзена «зялёнае святло», пачалася аперацыя «Шэйх», і для Ясіна прабіў апошні час.

*Corriera della sera*

# Aleksandra & Konstancin

**Першы раз Беларусь прыме ўдзел у 49-ым конкурсе песні «Еўравізія-2004». Лепшы еўрапейскі хіт стане вядомым увечары 15 траўня. Песня «Мой Галілей», якую рыхтуе для еўрапейскага слухача беларускі фольк-дуэт «Аляксандра і Канстанцін», ужо ўпэўнена сябе пачувае на першых месца тамтэйшых хіт-парадаў, а, паводле некаторых афіцыйных і неафіцыйных сайтаў, уваходзіць у пяцёрку лепшых. Але, каб дабрацца да Вялікага Фіналу, беларускім удзельнікам неабходна пераадолець яшчэ і кваліфікацыйны раунд, што адбудзецца 12 траўня, конкурс на які складае 2,2 песні на месца.**






**- У сувязі з тым, што нядаўна з вамі адбылося (у панядзелак, 15 сакавіка, на трасе паміж вёскамі Слабада і Навасяды Аляксандра і Канстанцін трапілі ў аварыю. Канстанцін зламаў рабрыну, Аляксандра пашкодзіла твар і калена. –А.М.), як адчуваеце сябе, што кажуць урачы?**

**Канстанцін:** Я пакуль да іх яшчэ не дайшоў.

**Аляксандра:** Сінякі паціху праходзяць. Усё нармальна. Мы ж пакуль людзі маладыя. Ды і не варта пра гэта ўвогуле ўзгадваць. Ніякага шкадавання мы да сябе вызываць не жадаем: гэта не тое пачуцце, якое мы імкнемся абуджаць у людзях.

**К:** Наша мэта і адказнасць, якую ўзялі на сябе, не дае нам раскісаць. На другі дзень мы паехалі на прымерку строяў, у сераду ўжо здымалі кліп.

**– Пасля нацыянальнага конкурсу ў вас пабольшала недабразычліўцаў: як лічыце, гэта аварыя была выпадковасцю або сппанаванай акцыяй?**

**К:** Не, тое, што адбылося, мы не лічым спланаванай акцыяй.

**А:** Як можна спланаваць дрэннае надвор'е? Гэта быў збег абставінаў. Не думаю, што малады афіцэр, машыну якога літаральна вынесла на нашу, сустрэчную, паласу, жадаў развітацца з кар'ерай або з жонкай ды маленькім дзіцем. Ніякай крыўды, а тым больш агрэсіі з нашага боку да яго няма.

**– Кожны дзень вы занятыя на рэпетыцыях. Але самы насычаны перыяд, перыяд падрыхтоўкі матэрыялаў для прадстаўлення іх 23-га на жараб'ёўку, ужо мінуў. Усе матэрыялы – ужо ў Стамбуле. А што ў працэсе іх падрыхтоўкі далося найцяжэй?**

**А:** Уся наша праца прыносіць нам задавальненне, таму скардзіцца на на тое, што нешта далося цяжка, не выпадае. Адзінае, на жаль, не хапала і не хапае часу на адпачынак, дакладней, уласна на сон.

**К:** Я ж гатовы хоць і тры дні не адпачываць. Для мяне самым цяжкім было ўсведамленне таго, што шмат што можна было зрабіць лепш, але не ад нас гэта «лепш» залежала.

**– А ад каго?**

**К:** Асноўныя прычыны-недахоп матэрыяльных сродкаў і часу.

**А:** Напрыклад, з двух варыянтаў кліпа прыйшлося выбраць «не залаты, а просты».

**– Раскажыце, калі ласка, чым будзе адрозніваюца выступ на еўрапейскім конкурсе ад таго, які мы ўжо пабачылі па тэлевізіі 31 студзеня?**

**К:** Нашым уласным настроем. Сёння песня «Мой Галілей» займае першыя месцы на хіт-парадах Еўропы, што значыць, нас пачулі. А выступаючы на Нацыянальным конкурсе, мы не ведалі, як гэты твор успрыме аўдыторыя.

**А:** На сцэне, акром мяне і Кастуся, будзе чалавек з акарынай, Андрэй Палаўчэня з Магілёва, і бэк-вакал. Усяго шэсць чалавек.

**– Хто астатнія?**

**К:** Вячаслаў Шарапаў, Пятро Ялфімаў, Эдуард Альтшулер.

**– З чыёй ініцыятывы ўносіліся змены ў першапачатковы варыянт? Не было гэта нейкай чужой воляй, няхай сабе і прафесіяналаў?**

**А:** Не. Зменаў, насамрэч, я хачу гэта падкрэсліць, ніякіх не адбылося. Усё, што змянілася – гэта дэталі ў тэхнічным плане, не больш. У тым варыянце, што быў прэзентаваны аўдыторыі 31-га, я сама напела гэтых восем трэкаў. Зараз мой голас трошкі разбавіцца. Вуху слухача гэтыя змены будуць амаль незаўважныя.

**– А падтанцоўка? Магчыма, вы падрыхтавалі маленькі перформанс? Што будзеце рабіць на сцэне?**

**А:** На сцэне мы будзем павольна рухацца. Нашы рухі не будуць распісаны. Нейкія апорныя моманты безумоўна ёсць, астатняе – імправізацыя.

**– Ці будзеце, Аляксандра, на сцэне босая?**

**А:** Пакуль мы не вызначыліся з касцюмамі, я гэтага не ведаю.

**– Магчыма, ужо глядзелі і слухалі ў інтэрнэце выступы сваіх патэнцыйных канкурэнтаў. Хто найбольш спадабаўся?**

**А:** Так, я сабе скачала і праслухала ўжо ўсё. Ёсць некалькі песень, я не хачу іх пакуль называць, з прэтэнзіяй на мастацкую каштоўнасць.

**– Каб прыняць удзел у гэтым конкурсе, вашаму дуэту прыйшлося паступіцца і мовай (беларускую замясціла ангельская), і накірункам (фольк-мадэрн замясціў поп з элементамі мясцовага каларыту). Але ж шырокая вядомасць да вас прыйшла дзякуючы не кавер-версіям англамоўных хітоў, якія з 1998 года спявалі ў клубах Барысава і Мінска, а менавіта апрацоўцы беларускай народнай песні. Чаму ёй не аддалі даніну, тым больш, што гэты конкурс, як ніякі іншы, сустракае спевы на нацыянальнай мове?**

**А:** Песні «Мой Галілей» ужо амаль чатыры гады. З самага пачатку яна была па-ангельску. Мы адчувалі яе цэласнасць, таму не ўзнікала жадання і нават думкі парушаць гэту цэласнасць.

**К:** Тыя, хто ведаў нас да гэтага, хто слухаў «За ліхімі марозамі» і «Сойку», прагаласавалі б за нас абавязкова. А вось тыя, хто 31-га першы раз пачуў «АіК» – невядома. Калі мы выйграем, то на гала-канцэрце абавязкова заспяваем сваю «Пчолку». Тады ўсё стане на свае месцы. Магчыма, і пераклад «Майго Галілея» на беларускую мову таксама з'явіцца. Мы вядзём перамовы з аўтарам, які бярэцца гэта зрабіць якасна.

А ў тым варыянце, які ўжо існуе, ад фольку таксама ёсць не мала: гарлавыя спевы, рытміка, будзе гучаць акарына, народны інструмент не толькі беларусаў, дарэчы.

**– Джаз, кантры, блюз, фольк-мадэрн. Зараз поп. Якім будзе наступны крок? Крок назад ці наперад?**

**К:** Мы будзем працаваць у ранейшым рэчышчы.

**А:** Магчыма, нешта з'явіцца новае, напрыклад, ад электроннай музыкі, але аўтэнтыка будзе захавана.

**– Ці ёсць жаданне пашырыць этнічныя межы творчасці?**

**А:** Нам не перашкаджае ўносіць элементы ўсходняй, негрыцянскай, любой іншай музыкі ў аранжыроўкі беларускіх народных песень.

**– У адным сваім інтэрв'ю вы прызналіся, што ўжо амаль гатовы трэці альбом. Але з-за падрыхтоўкі на «Еўравізію-2004» працу пакуль адклалі. Якія творы складаюць, так бы мовіць, ваша трэцяе дзіця?**

**А:** Беларускія народныя песні ў нашай апрацоўцы – тое, што мы рабілі да гэтага.Падрыхтавана толькі палова матэрыяла на альбом, і пакуль гэта не аранжыраваныя рэчы.

**– Падпісаўшы «Рамкавы дагавор», частку правоў на ўсе наступныя творы, напісаныя цягам трох гадоў, вы аддалі «Белтэлерадыёкампаніі».**

**А:** У гэтым няма нічога жахлівага. Ва ўсім свеце артысты імкнуцца заключыць дагавор з якой-небудзь кампаніяй. Гэта гарантыя стабільнай працы. Так, мы спачатку баяліся. Але ўдзельнічаць у «Еўравізіі» – гэта ўнікальны шанец. Пакуль нам супраца з «БТ» падабаецца. Дзякуй Богу, нас ніхто не змушае рабіць тое, чаго не жадаем.

**К:** У кантракце ёсць пункт, паводле якога спорныя моманты будуць рашацца шляхам дамоў з двух бакоў.

**– З таго моманту, як падпісалі дагавор, ці стварылі ўжо што-небудзь?**

**А:** Пакуль неставала часу.

**– Як вы ацэньваеце свае шансы на ўдалы выступ?**

**К:** Мы разлічваем менавіта на ўдалы выступ. Бо перамога не бывае выпадковай. Пройгрыш, так. Мы ж пастаянна працуем на сваю перамогу.

**– А як адпачываеце?**

**А:** Як гэта не банальна, адсыпаемся і наведваем бацькоў.

**К:** Ім важна бачыць нас. Бачыць, што мы жывыя і здаровыя.

**– Ну так, асабліва пасля таго, што здарылася. Як змяніў гэты жахлівы эпізод ваша светаўспрыманне?**

**К:** Паглядзець уласнай смерці ў вочы для нас значыла пераацаніць некаторыя каштоўнасці. Многія рэчы, на каторых раней засяроджвалі ўвагу, сталі пасля таго панядзелка нязначнымі. Пакуль рана выдаваць канкрэтыку, трэба усё перадумаць.

**– Ці ведаеце міфы, якія ходзяць пра ваш дуэт? Які з іх самы неверагодны?**

**А:** Даволі ўжо разышоўся міф пра тое, што мой бацька вельмі паспяховы бізнэсмен Кірсанаў, а працуе ў Маскве. От мне гэты міф вельмі спадабаўся.

**– Тады кім працуе ваш тата?**

**А:** Ён інжынер-канструктар.

**К:** Як толькі здарылася аварыя, суседзі выказалі неверагодную версію, што гэта нам нехта нашаманіў. Міфам ёсць і тая інфармацыя, што мы ўжо даўно муж і жонка.

**– Дарэчы, а чаму яшчэ не?**

**К:** Змена прозвішча і пазнака ў пашпарце нічога не значыць. Калі няма кахання, не выратуе і гэта.

**А:** Так. Мы імкнемся да шчырых адносінаў, а не да «брака». І хто сказаў, што яны немагчымыя без юрыдычнага афармлення шлюбу?

**– З 1998-га вы разам. У адным нядаўнім інтэрв'ю так і сказалі: «Мы сталі адным арганізмам». А ці адпачываюць як-небудзь часткі гэтага вашага агульнага арганізма адна ад другой?**

**А:** Так, калі мы спім, то снім розныя сны (*смяецца*).

**К:** Раней у нас была магчымасць жыць у розных дамах. Але не зараз.

**– Папулярнасць звычайна прыводзіць мінімум да дзвюх хваробаў: зорнай і абагаўлення, нават нізкапаклонства з боку блізкіх і дарагіх людзей. Як перамагаеце дыстанцыю, якую стварае слава?**

**К:** У нас ёсць добры сродак: у сваёй шафе я, на крайні выпадак, захоўваю чатыры пачачкі Фервексу. Калі не хопіць, то каля дома ёсць аптэка.

**А:** Зорнай хваробай можа захварэць любы, хто робіць сваю справу добра. Напрыклад, урач ці настаўнік...

**К:** Хацеў бы я паглядзець на такога ўрача... А нашай зорнасці для такога цяжкога захворвання нам пакуль не хапае.

**– Што ж да таго, як на вас пачалі глядзець бацькі і сябры, то тут, здаецца, амаль нічога не змянілася.**

**А:** Адзінае, наша перамога ў вачах бацькоў надала важнасці той справе, якой мы займаемся. Раней многія лічылі, што захапленне музыкай – гэта не зусім сур'ёзна.

**К:** Але з гэтай перамогай прыйшлі і нязручнасці.

**А:** Напрыклад, я не магу зараз хутка перамяшчацца па горадзе. Паўсюль спыняюць, просяць аўтограф. Як раней я не магу сабе дазволіць распусціць валасы: яны адразу прыцягваюць увагу. Абавязкова трэба нешта рабіць. Напэўна, трэба разжыцца нейкім капялюшыкам.

**– Вас чакае вялікая аўдыторыя. Будзе складана ўтрымаць псіхалагічную раўнавагу. Чым будзеце сябе падтрымліваць?**

**К:** З намі паблізу будуць знаёмыя ўжо людзі.

**А:** Потым імпульсы родных, блізкіх і тых, хто за нас будзе хварэць тут, на Беларусі, абавязкова дойдуць да Стамбула.

**– Напрыканцы, калі ласка, некалькі пытанняў анкетнага плана.**

**– Узрост.**

**А:** Нарадзілася 22 траўня 1980 года ў Барысаве.

**К:** Нарадзіўся 11 сакавіка 1972 года ў Барысаве.

**– Адукацыя.**

**А:** Скончыла музычную школу па класу фартэпіяна. Вучуся на пятым курсе Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры на аддзяленні мастацтва эстрады, спецыялізацыя – вакал.

**К:** Пад час вучобы ў школе скончыў студыю па класу класічнай гітары. Потым браў прыватныя ўрокі. Шмат чаму навучыў мяне выдатны музыка Аркадзій Юшын. Зараз у ЗША.

У 1994 годзе скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

**–Мары.**

**А:** У дзяцінстве марыла стаць доктарам. Зараз таксама не губляю надзеі, што калісьці атрымаю веды па ветэрынарнай справе.

**К:** А я ў дзяцінстве, як і ўсе нармальныя дзеці, марыў стаць касманаўтам. Лічу, што часткова мара збылася: наш дуэт, сапраўды, ёсць своеасаблівым «Юрыем Гагарыным» не ў космасе, дык у Еўропе.

**А:** Сёння мара ў нас з Кастусём пакуль адна на дваіх – добра выступіць на «Еўравізіі», дастойна рэпрэзентаваць Беларусь.

**– Што любіце , а што не церпіце ў людзях?**

**К:** Я прымаю людзей такімі, якія яны ёсць.

**А:** У людзях паважаю шчырасць і дабрыню. Калі чалавек добры, то шмат якія недахопы яму можна прабачыць.

**– Хобі.**

**К:** Нават не ведаю, што лічыць асабістым хобі. Скарэй, гэта падарожжы.

**А:** Сваім хобі магу назваць кветкі і жывёлу.

**– Адзенне.**

**А:** У адзенні трымаемся спартыўна-дзелавога стылю. Калі казаць пра сцэнічныя касцюмы, дык тое, у што мы апранаемся, я б назвала сумяшчэннем стыляў мадэрну і фольку. З выступаў прывозім шмат цікавых рэчаў, кшталту абярэгаў. Яны ёсць добрым дапаўненнем абранаму іміджу.

**–Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

# Улад Дракула

Сяргей ЗАНКЕВІЧ



Мне вельмі падабаецца Румынія. Там ёсць мора, а гэтага Беларусь, на жаль, не мае. Там расце вінаград, з якога вырабляецца цудоўнае віно. А яшчэ тут ніхто не звернецца да цябе на «ты», і не абзаве «мужыком» ці «таварышчам». У Румыніі звяртаюцца адзін да аднаго «domnul» (ад лацінскага dominus – бог, гаспадар).

Думка напісаць пра свае румынскія ўражанні прыйшла ў галаву пасля прачытання караценькай газетнай «страшылкі» «Найвялікшыя садысты свету». Там быў змешчаны партрэт Улада Цепэша пад назваю «Улад Валашскі». Гэты чалавек больш вядомы як Улад Дракула. У Румыніі партрэты Улада Цепэша можна пабачыць у любой бібліятэцы побач з партрэтамі Штэфана Вялікага, Міхая Храбрага, Міхая Эмінэску.

Атрымоўваецца, што, з аднаго боку, ён – класічны садыст, з другога – нацыянальны герой. Наколькі ў гэтым можа быць праўды?

## Паходжанне

Румынія гістарычна складалася з трох рэгіёнаў: Валахіі, Трансільваніі, Малдовы.

Улад нарадзіўся ў 1431 г. Яго бацька паходзіў з дынастыі, якая кіравала Валахіяй з пачатку XIV стагоддзя. Бацька Улада Цепэша – Улад I (гаспадар у 1436–1442, 1443–1447 гг.) належаў да рыцарскага ордэна Дракона. Дарэчы, сярод кавалераў гэтага ордэна быў наш Вітаўт Вялікі, кароль Польшчы Уладзіслаў (Ягайла), кароль Арагона і Неапаля Альфонс V, дэспат Сэрбіі Штэфан Лазарэвіч. Ад бацькі імя, ці ўжо лепей тытул, «Дракон» перайшло да сыноў, у тым ліку і да Улада Цепэша. Мянушка Цепэш паходзіць ад румынскага teapa – паля, кол і перакладаецца як «той, хто саджае на палю». Гэта быў спосаб пакарання, якім Улад карыстаўся часцей за ўсё. Змрочная рэпутацыя «Цепэша» прывяла да таго, што слова «Дракул» пачала асацыявацца з румынскім словам «drac» і асэнсоўвацца як «д'ябал».

З 1442 па 1448 год малады Улад разам са сваім малодшым родным братам Раду (будучы ўладар Валахіі – Раду Прыгожы) былі закладнікамі ў туркаў. Тыя заслужана славіліся як храбрыя ваяры. А паколькі яны ніколі не шкадавалі свайго жыцця, то і жыццё іншых у іхніх вачах не каштавала нічога. Абодва браты па-рознаму рэагавалі на жыццёвыя выпрабаванні. Улад з гадоў зняволення вынес нянавісць да турак. А Раду зрабіўся каханкам султана Мехмета II, якому жанчын-наложніцаў было недастаткова.

У 1448 г. бацьку Улада забілі. Хутка пасля гэтага ён вярнуўся ў Валахію, з дапамогай адной з баярскіх групоўвак у кастрычніку захапіў трон, але толькі на некалькі тыдняў.

## Гаспадар Валахіі

У 1456 г. з дапамогай гаспадара Трансільваніі Янаша Хуньядзі (дарэчы, таго, хто загадаў забіць яго бацьку) Улад зноў захапіў трон Валахіі і гэтым разам гаспадарыў да 1462 года. Ён змог стабілізаваць унутранае і вонкавае становішча краіны. Змагаўся з баярамі за адзінства краіны, для барацьбы з унутранымі і знешнімі ворагамі ўзброіў вольных сялян і месцічаў, узмацніў дзяржаўны апарат. У 1457 г. пры яго дапамозе Штэфан, тады яшчэ не вялікі, захапіў трон Малдовы. Вясной 1459 г., спрыяючы нацыянальным купцам, абмежаваў дзеянні замежных гандляроў на тэрыторыі свайго княства і запатрабаваў ад іх гандляваць толькі ў памежнай зоне ў час кірмашоў, якія адбываліся некалькі разоў на год. На што купцы з Брашова і Сібіу здзекліва адказалі: «Мы ведаем як справы ў Валахіі – сёння гаспадаром Улад, заўтра Дан, паслязаўтра Раду, і кожны, хто прыйшоў, мяняе тое, што зрабіў папярэднік...», і свой гандаль працягвалі. У адказ Улад, які вельмі высока ставіў слова гаспадара, адразу ж загадаў схапіць усіх купцоў з Брашова і Сібіу, якія ў той час знаходзіліся на тэрыторыі Валахіі, і пасадзіць іх на палю. Гэта выклікала моцную незадаволенасць трансільванскіх купцоў, якія прафінансавалі прэтэндэнта на валашскі трон – Дана. Улад Цепэш правёў паспяховы карны рэйд на Брашоў і ў Трансільванію. Сотні людзей былі пасаджаны на палю альбо спалены жыўцом. Прэтэндэнт Дан быў узяты ў палон, па ім жывому святар прачытаў заўпакойную імшу, і Дану адрэзалі галаву.

У 1461 г. Цепэш адмовіўся плаціць даніну турэцкаму султану. Узімку 1461–1462 гг. султан паслаў да Цепэша пасла, грэка на імя Катабалінас з загадам запрасіць валашскага гаспадара ў Стамбул для аплаты даніны, абяцаючы, што пры гэтым Цепэш сустрэне выключна пачэсны прыём. У той жа час султан даў інструкцыі Гамзу-пашу, камандуючаму турэцкімі войскамі на Дунаі, каб той падтрымліваў таемную сувязь з Катабалінасам. І калі Катабалінас разам з Цепэшам пакіне Тырговіштэ і дасягне Джурджу (горад на Дунаі), трэба напасці на іх і ўзяць Цепэша ў палон. Цепэш пра гэта даведаўся. Яго гвардзейцы, пераапрануўшыся ў турэцкую вопратку, хітрасцю захапілі Джурджу з усім гарнізонам. У рукі Цепэша трапіў і Катабалінас са сваёй світай. З усёй гэтай здабычай гаспадар Валахіі вярнуўся ў Тырговіштэ. І тут, прыблізна за пяць кіламетраў ад горада, усе палонныя былі пасаджаны на палю. Прычым, самыя высокія палі (як той казаў, пачэснае месца) атрымалі Катабалінас і Гамза-паша.

## Лес пакутнікаў

Аднак Цепэш на гэтым не спыніўся. Ён ідзе з войскам за Дунай і захоплівае турэцкія крэпасці уздоўж ракі да горада Зімніца, рабуючы і спальваючы ўсе турэцкія паселішчы, рэжучы і саджаючы на палю ўсё турэцкае насельніцтва. Задаволены зробленым, ён дасылае вугорскаму каралю Мацяшу Корвіну ліст, у якім хваліцца тым, што зрабіў. Пісьмо гэта, датаванае 11 лютага 1462 г., цудам захавалася. Яно паведамляе колькасць забітых – 23.884 чалавекі; і гэта без уліку тых, што былі спалены жыўцом!

Зразумела, цярпець такое султан Мехмет II не збіраўся і ўлетку 1462 г. турэцкае войска (да 250.000 чалавек) рушыла на Валахію. На сваім шляху да Тырговіштэ султан бачыў пустую краіну. Улад выкарыстоўваў тактыку, якую пазней назавуць «тактыкай спаленай зямлі».

Нарэшце турэцкая армія дайшла да сталіцы Валахіі. Горад быў пусты. Палохаючыся нейкай пасткі, султан вырашыў абмінуць Тырговіштэ. Хутка на сваім шляху туркі ўбачылі лес – палі, з напалову згніўшымі шкілетамі займалі плошчу ў даўжыню да 17 стадый (г. зн. 3 км) і ў шырыню да 7 стадый (больш за 1 км). Катабалінаса і Гамзу-пашу пазналі па рэштах дарагой шоўкавай вопраткі. І было там прыблізна 20.000 чалавек: мужчыны, жанчыны з груднымі дзецьмі, старыя, маладыя.

Султан вырашыў далей не праследаваць Цепэша, павярнуў войска ў накірунку Брэілы, а адтуль вярнуўся ў Турцыю.

## Вязень замка Вышаград

Хоць турэцкі паход на Валахію ў 1462 г. нельга назваць паспяховым, але і зусім безвыніковым ён не быў. Мехмет II вёз у сваім абозе ў якасці прэтэндэнта на валашскі трон роднага брата Цепэша Раду Прыгожага. Падкрэплены турэцкім кантынгентам, Раду пасля адходу туркаў пачаў дзейнічаць самастойна. Валашскае баярства, незадаволенае цэнтралізатарскай палітыкай Цепэша, паразумелася з туркамі, выступіла супраць гаспадара і перайшло на бок Раду. Улад Цепэш адступіў і быў вымушаны адысці ў Трансільванію, разлічваючы на падтрымку вугорскага караля, аднак Мацяш Корвін не захацеў сварыцца з туркамі. Ён заключыў мір з Раду Прыгожым, а Цепэша загадаў арыштаваць і пасадзіць у крэпасць. Раду Прыгожы кіраваў Валахіяй з 1462 па 1473 гады, калі яго змяніў пры дапамозе малдаўскага гаспадара Штэфана Вялікага Лайота Басараб.

Зняволенне Улада цягнулася 12 гадоў, у асноўным у крэпасці Вышаград на Дунаі.

У лістападзе 1476 г. Улад у трэці раз гаспадар Валахіі, але праз некалькі тыдняў у снежні ён быў забіты туркамі з дапамогай мясцовых баяр. Кажуць, што адрэзаная галава Улада была пакладзена ў мёд і адпраўлена ў Стамбул турэцкаму султану.

## Прайшлі стагоддзі

Старажытныя хронікі данеслі да нас даволі шмат гісторый пра ўчынкі Цепэша. Некаторыя з іх пацвярджаюцца гістарычнымі крыніцамі, некаторыя відавочна прыдуманыя. Вось адна з гісторый, якая мне вельмі падабаецца і якую я раіў бы добра ведаць усім нашым бізнесоўцам.

Купец з Трансільваніі ехаў гандляваць з таварам і грашыма. Калі ён прыбыў у Тырговіште, сталіцу Валахіі, то быў абакрадзены на суму 160 дукатаў, вялізныя па тых часах грошы. Гандляр прыйшоў са скаргай да уладара. Цепэш загадаў аб'явіць насельніцтву горада, што калі злодзея не выдадуць за суткі і не вернуць гандляру ягоныя грошы, то кожны дзесяты жыхар будзе пасаджаны на палю. Паколькі ён слова сваё заўсёды стрымліваў, то на наступны дзень злодзея даставілі ў палац і грошы прынеслі таксама. Злодзей быў тут жа пасаджаны на палю, а да 160 дукатаў Улад загадаў дабавіць 1 дукат ад сябе. Купец, атрымаўшы ўсю сваю маёмасць, прыйшоў у палац падзякаваць. Цепэш запытаў, ці ўсё яму вярнулі. «Усё, твая вялікасць. – адказаў той, – і нават адзін дукат лішні. Вось ён».

Цепэш пасмяяўся і кажа: «Ты сумленны чалавек, і добра, што сказаў пра лішні дукат, а то сядзеў бы на палі побач са злодзеем».

*

Адна з гісторый распавядае, як Цепэш вырашыў вычысціць краіну ад злодзеяў, лайдакоў, хворых калек, якія бадзяліся па дарогах краіны. Ён лічыў іх баластам – не працуюць, карысці ад іх ніякай.

Аднойчы ўсіх іх запрасілі ў Тырговіштэ, і гаспадар запытаў: «Жадаеце, каб я зрабіў так, што вы не будзеце мець клопатаў на гэтым свеце і ні ў чым у вас не будзе недахопу?» «Жадаем!» – адказалі тыя.

Іх пераапранулі ў чыстую прыгожую вопратку, прывялі ў вялізны дом, дзе былі падрыхтаваныя сталы з ежай і напоямі. Пасля таго, як небаракі наеліся і напіліся, дзверы зачынілі і будынак падпалілі з чатырох бакоў. Усе ўнутры згарэлі.

*

Ішоў аднойчы Цепэш і бачыць селяніна ў кароткай і бруднай кашулі. Запытвае, ці мае той жонку, ці сеяў ён летась лён. І жонка ёсць, і лён маецца. Тады Цепэш, увайшоўшы ў хату і пабачыўшы, што жонка маладая і здаровая, пакараў яе за ляноту. Жанчыне адрэзалі абедзьве рукі, а потым пасадзілі на палю. Кажуць, што другая жонка, якую Цепэш ўзамен даў таму селяніну, працавала і ўдзень, і ўноч, каб толькі дагадзіць мужу. Добра, што ў наш час няма Цепэша. Колькі спатрэбілася б дрэў, каб пазбавіць свет ад лянотных жанчын.

*

Цепэш меў звычку выпіваць і закусваць пад трупамі людзей, пасаджаных на палі. Адзін з яго прыбліжаных увесь час моршчыў нос ад смуроду. Тады гаспадар загадаў падрыхтаваць палю вышэйшую і пасадзіць на яе гэтага чалавека: маўляў, там смуроду не адчуе.

*

Аднойчы Цепэш загадаў цыганам павесіць аднаго з іх, які быў вінаваты ў крадзяжах. Тыя не хацелі гэта рабіць – закон іхні не дазваляе. Тады цыгана зварылі ў катле і яго таварышы вымушаны былі яго з'есці.

*

Ёсць аповесць пра манаха, які вандраваў на асле. Дык Цепэш за нейкую віну загадаў пасадзіць на палю і яго, і асла.

*

Аднойчы да яго прыбылі турэцкія паслы. Падчас прыёму, яны не знялі свае цюрбаны. На пытанне Улада, чаму яны ў цюрбанах, паслы адказалі, што гэта іх звычай і свае цюрбаны яны не здымаюць нават перад султанам. «Трэба паважаць звычаі чужой краіны», – адзначыў Улад і загадаў прыбіць цюрбаны да галоў паслоў цвікамі. Што і было тут жа выканана.

*

Адзін з расповедаў кажа, што ў пустынным месцы, дзе праходзіў вялікі шлях, быў калодзеж, дзе супыняліся, каб напіцца вады. І Цепэш забыўся там залаты коўшык. І ўвесь час, пакуль ён быў гаспадаром, ніхто не асмеліўся яго скрасці.

*Дык хто ж такі Улад Цепэш? Нацыянальны герой ці адзін з найвялікшых садыстаў свету? Няхай кожны чытач гэта пытанне вырашыць для сябе сам.*

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 201
Падпісана да друку 30.03.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.